# Вынікі 3-яй сэсіі ЦВК БССР.

(*Гутарка з тав. Чарвяковым*).

**Растлумачыць сялянству вынікі сэсіі, дапамагчы мясцовым органам улады ў правядзеньні іх у жыцьцё і сачыць за правільным іх вырашэньнем—задача кожнага дэпутата сэсіі, кожнага партыйца, комсамольца, перадавой беспартыйнай моладзі.**

III-я сэсія ЦВК практычна вырашыла ці паставіла на вырашэньне цэлы шэраг пытаньняў, ад якіх залежыць далейшае пасьпешнае будаўніцтва Беларусі, як часткі Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік.

Бюджэтнае пытаньне цяперашняга году ёсьць забясьпечаньне таго, што задачы, якія мы паставілі на разьвязаньне ў бягучым годзе, мы разьвяжам. Асновы бюджэту на наступны год,—гэта ёсьць стратэгічны плян сацыялістычнага будаўніцтва на наступны год.

На падставе яго ўраду і ўсім установам трэба распрацаваць падрабязныя тактычныя задачы, каб гэтым даць кожнай установе, кожнаму працоўнаму яго баявую задачу. Кожны салдат павінен ведаць свой манэўр; кожны працоўны павінен ведаць свае баявыя задачы і свае фінансавыя магчымасьці ў справе вырашэньня задач, як часткі агульнага пляну сацыялістычнага будаўніцтва. Агульная ацэнка бюджэтнага палажэньня такая: мы расьцем, ідзем наперад. Усё ў нашым жыцьці—самае важнае; трэба даць патрэбную ўвагу як гаспадарчым, так і культурным задачам. І з гэтай прычыны беражы кожны савецкі грош, каб гэтыя сродкі накіроўваць на вырашэньне задач гаспадарчага і культурнага сацыялістычнага будаўніцтва Беларусі.

Пытаньні сельска-гаспадарчага падатку былі правільна пастаўлены на разгляд сэсіі, хоць гэты закон ужо праводзіцца ў жыцьцё.

Новая сыстэма сельска-гаспадарчага падатку вымагае самай сур'ёзнай увагі з боку ўсіх устаноў. Сэсія адзначыла некаторыя дэфэкты пры правядзеньні ў жыцьцё закону; яна зьвярнула ўвагу на тое, што неземляробскія заработкі сялян трэба ўключыць у аб'екты абкладаньня з вялікаю асьцярогаю. Сэсія дала ўраду заданьне ўнесьці папраўку ў інструкцыю аб падатку; яна таксама замацавала вызваленьне 20 проц. сялянскіх гаспадарак ад падаткаў. Сэсія, такім чынам, забясьпечыла тое, што бяднейшыя і сярэднія гаспадаркі будуць плаціць пасільны падатак і гэтым захаваюць магчымасьць да далейшага свайго разьвіцьця.

Такое значэньне, якое сельская гаспадарка мае для селяніна, для местачковага насяленьня мае саматужная прамысловасьць.

Сэсія над гэтым пытаньнем даволі папрацавала. Гэтым сэсія на справе паказала, што Савецкі ўрад клапоціцца аб усіх працоўных. У даным выпадку ўвага з боку сэсіі саматужнай прамысловасьці па сутнасьці была ўвагаю да яўрэйскага насяленьня. Гэта ёсьць частка тых шырокіх мерапрыемстваў, якія савецкая ўлада праводзіць у адносінах яўрэйскага насяленьня, надзяляючы яго зямлёю і г. д. Гэта—палітычны бок справы аб саматужнай прамысловасьці.

Разьвіцьцё саматужнай прамысловасьці мае таксама вялікае эканамічнае значэньне. Разам з разьвіцьцём мясцовай прамысловасьці, саматужная прамысловасьць павінна павялічваць колькасьць тавараў на рынку. Павялічэньне тавараў на рынку азначае, што мы зможам не дапусьціцца да таварнага голаду, як гэта было ў мінулым годзе.

Дзеля гэтага—больш увагі мясцовай і саматужнай прамысловасьці.

Пытаньне аб шлюбе, сям'і і апецы выклікалі гарачыя спрэчкі на сэсіі. Прэзыдыум правільна зрабіў, што паставіў гэтае пытаньне толькі на першапачатковы абгавор. Пытаньне аб шлюбе, сям'і і апецы закранае самыя інтымныя бакі чалавечага жыцьця і дзеля гэтага яго так цяжка вырашыць. Мы пераживаем пераходны пэрыяд калі сацыялістычныя элемэнты ў нашай эканоміцы вядуць барацьбу проціў капіталістычных, якія вырастаюць, на падставе прыватнай уласнасьці. Мы павінны вырашыць пытаньне аб шлюбе, сям'і і апецы, як вымагае гэтага сацыялістычнае будаўніцтва. Пры вырашэньні гэтага пытаньня мёртвае, старое ня пускае новага, жывога. Усё гэта трэба будзе мець на ўвазе, калі члены ЦВК будуць рабіць даклад аб сэсіі і асьвятляць пытаньні аб шлюбе на сходах. На наступнай сэсіі нам трэба будзе ведаць ня толькі, чаго вымагаюць у цяперашні момант рабочыя і сяляне, выходзячы са свайго маемаснага палажэньня, а яшчэ болей нам трэба ведаць, у якія формы нам трэба ўлажыць інстытут шлюбу і сям'і ў цяперашні момант, каб гэтым не затрымаць, а наадварот—рушыць уперад далейшае будаўніцтва сацыялізму.

Мы зацьвердзілі палажэньне аб гарадзкіх саветах. Мы гэтым унесьлі вялікую яснасьць у пытаньні аб правах і абавязках гарсаветаў. Пры агульным ажыўленьні палітычнай актыўнасьці рабочых і сялянскіх мас на Беларусі, вялікае значэньне мае работа гарсаветаў, якая павінна прыцягнуць актыўнасьць мас і накіроўваць гэтую актыўнасьць у бок удзелу ў савецкім сацыялістычным будаўніцтве. Наша дзяржава—ёсьць дзяржава дыктатуры пролетарыяту. Нашая дзяржава будуецца на падставе дабрахвотнай аддачы сялянства кіруючай ролі пролетарыяту. Гарадзкі савет ёсьць тая савецкая установа, дзе кансалідуецца пролетарыят, як кляса гегемон, як кляса кіраўнік. Увага яго працы забясьпечыць тое, што мы і ў далейшым будзем узмацняць нашу дзяржаву, як дзяржаву дыктатуры пролетарыяту, як дзяржаву, пабудаваную на саюзе між рабочай клясай і сялянствам.

Прымаючы пад увагу значную колькасьць балот і дрэнный зямлі на беларускай тэрыторыі, прымаючы пад увагу, што ў цяперашні момант разьвіцьцё мэліорацыйных работ забясьпечвае магчымасьць эканамічнага разьвіцьця Беларусі, усе мы павінны праэкт кодэксу аб мэліорацыі самі як сьлед яшчэ раз вывучыць і абгаварыць яго разам з шырокімі коламі, у першую чаргу сялян, каб гэтым даць магчымасьць наступнай сэсіі прыняць такі кодэкс аб мэліорацыі, які забясьпечыў бы перараджэньне нашага краю,—краю балот і лясоў, у край, дзе наша насельніцтва будзе матар'яльна поўнасьцю забясьпечана.

Нашай працай на сэсіі мы зрабілі яшчэ крок наперад па шляху да сацыялізму. Крок за крокам ідзем мы ўперад і ўперад. Капіталістычны сьвет гніе, а мы разьвіваемся. Гэта паказвае, што канчатковая перамога сацыялізму забясьпечана.

Год выданьня II-гі.

Пролетары ўсіх краеў, злучайцеся!




№ 13 | Ліпень 1926 г. | Менск

Юрка Доўгі.

# КОМУНА.

*(З апавяданьняў, якія прысланы на конкурс).*

За трыццаць вёрст ад чыгункі, амаль ля самага гасьцінцу, на ўзгорку, раскінулася вёска Крыніцы.

Бедна жыў люд гэтай вёскі. Уся лепшая зямля была ў пана Зацнеўскага, вялікага багацея і маёнтніка, сядзіба якога красавалася на другім суседнім узгорку, за рэчкаю.

Ня гледзячы на тое, што зараз-жа за маёнткам пана Зацнеўскага пачынаўся вялікі лес, усе хаты ў Крыніцах былі старэнькія, бо гэты лес таксама належаў пану Зацнеўскаму.

Шмат зьдзекаў і крыўды перанесьлі сяляне вакольных вёсак за гэты лес.

Яшчэ ў 1905 годзе сяляне вёскі Крыніцы разам з іншымі езьдзілі самачынна ў панскі лес секчы дровы. Шмат у тыя часы было высечана гэтага лесу. Затое многа прышлося й караў панесьці. Чалавек з пяць адседзелі па тры гады ў вастрозе, а чуць ня ўсе разам з сялянамі суседніх вёсак змушаны былі плаціць пану стратныя.

Таксама добра даліся ў знакі казакі й жандары, якія часта наведваліся ў Крыніцы.

Кепска было жыць, што й казаць. Затое паном добра жылося. Амаль ня кожны дзень спраўляліся гульні ў палацах пана Зацнеўскага. А ўжо калі якое сьвята надыходзіла, то к пану Зацнеўскаму зьяжджаліся госьці амаль ня з цэлай губэрні. У гэткіх выпадках панскі аконам хадзіў па Крыніцах і загадваў усім дзеўкам зьбірацца ў палацах пана Зацнеўскага і весяліць песьнямі гасьцей. І дзеўкі йшлі. Плакалі, але йшлі. Бо што-ж зробіш? У іх—багацьце, у іх—сіла.

І часта пасьля такой гульні Крынічанцы, заместа рыбы, вылоўлівалі з рэчкі сваіх дачок ды сёстраў.

Бягуць гады і ўсё мяняецца.

Таксама зьмянілася ўсё і ў Крыніцах.

Рэвалюцыя сваім магутным подыхам пранеслася і над Крыніцамі. Уся тая злосьць, што нарастала гадамі на сэрцы сялян, вылілася на галаву пана Зацнеўскага. Яго напаўжывога ўтапілі ў студні.

І застаўся стаяць за рэчкаю адзінокі, усімі пакінуты дом.

На самым краю вёскі Крыніцы стаіць ў адзіноце, як-бы адарваўшыся, пахіленая на бок старэнькая хатка. Жыве ў гэтай хатцы Андрэй-сірата. Маці яго ўжо гадоў з пяць як памерла, а бацьку забілі палякі ў часе адступленьня.

Невядома, як-бы жыў Андрэй сіратою, але к яму ў хату папрасілася бабка Акуліна. Дык ён з ёю і жыве.

Акуліна яму есьці зварыць, кашулю памые, а ён упраўляўся з гаспадаркаю.

Але ня ладзілася ў яго гаспадарка. Ды й ня толькі ў яго. Яго бацька, дзед і прадзед жылі ў Крыніцах так з прадвеку. Андрэй гэта ведаў. Ведаў таксама й тое, што ён ня здолее палепшыць сваё жыцьцё у гэтай маленькай курнай хатцы, на вузкай і доўгай палосцы. Другія думкі заселі ў яго галаве. Гэтыя думкі не давалі яму ніколі спакою. Пад уплывам гэтых думак Андрэй з'арганізаваў у Крыніцах Комсамольскую ячэйку, якая складалася з пяці комсамольцаў.

Вось у гэтай старэнькай Андрэевай хатцы адбываўся чарговы сход Крыніцкай ячэйкі. Разьбіралася пытаньне аб арганізацыі ў Крыніцах Комуны. Але ўсе комсамольцы аднесьліся да гэтага спачатку варожа:

— Нашто нам тая комуна?

— Тут і бяз комуны жыць цяжка!..

— З голымі рукамі за жар лепш ня брацца!..

Толькі Андрэй, які ўнёс гэта пытаньне, горача бараніў яго:

— Толькі праз комуну мы зможам палепшыць стан жыцьця ня толькі свайго, але нават цэлай вёскі. Вы павінны зразумець, што тую зямлю, якая знаходзіцца ў адным кавалку, спрытней апрацоўваць, чым тую, якая парэзана на вузкія палоскі...

— Ведаем мы гэта добра,—перабіў яго Васіль,— але як мы абжывемся?.. вось задача!?..

Сымон падтрымліваў Васіля:

— Праўду кажа Васіль. Без капейкі мы ня можам ад бацькоў адыходзіць на вядзеньне самастойнай гаспадаркі.

Але Андрэй стаяў на сваім:

— Паслухайце ўсе з увагаю, што буду я казаць і не перабівайце мяне... Ад сям'і можна аддзяліцца, падмогу нам дасьць улада... ды й самі мы не бяз нічога бярэмся за гэту справу. Вось у мяне ёсьць карова, а ты, Васіль, прывядзеш ад бацькі цялушку—то ўжо будзе дзьве!..

— Дык што-ж мы... на каровах араць будзем?— не здаваўся Васіль.

— Да сонца не даскочыш... скакалі ўжо!

— Як ня круці, а ўсёроўна нічога з гэтага ня будзе!..

— Што-ж,—гнуў сваё Андрэй—першы год можа прыдзецца паараць і на каровах... Затое на другі год будзе лягчэй... трактар дастанем...



У старэнькай Андрэевай хатцы адбываўся сход ячэйкі.

Доўга спрачаліся яны. Урэшце парашылі галасаваць. І большасьць галасоў аказалася за Комуну.

Назаўтра ўся вёска загула:

— Комсамолы сход зьбіраюць! Зямлі хочуць прасіць пад камунію!—неслася ад аднэй хаты да другой.

— Што-о!?. Камунію!?. Ах, якія смаркачы! — лаяўся багацей-мельнік.—І чаго толькі ня выдумае гэта галыцьба?.. Ня жывецца вось ім, паганым, палюдзку!..

* * *

Мінуў год.

Ды й другі ўжо да палавіны стаў дабірацца.

А комунарам кепска жывецца. Пагоршала яшчэ, як было.

Андрэй зрабіўся, як цень. Высах увесь, як шчэпка, быццам з яго п‘яўкі не адрываючыся кроў смакталі.

Высахлі й Васіль з Сымонам.

Сымон пачаў моцна лаяцца. Па цэлых начох ня спаў, а лаяўся. Моцна лаяў усіх і ўсё...

Крынічанцы бачылі кепскае жыцьцё маладых комунараў і некаторыя адносіліся да іх з спагадаю, а некаторыя кпілі, сьмяяліся, па вуліцах нельга было прайсьці, пальцамі паказвалі:

— Папробавалі новага жыцьця?!.

— Што?.. Смачна?!. га?!.

— Добра камунію наводзіць?..

Нічога не адказвалі хлопцы, а толькі яшчэ ніжэй схілялі галовы і моўчкі йшлі далей сваёю дарогаю.

Пад мокраю пачарнеўшаю саламянаю страхою пахілілася старэнькая хатка, у якой жылі комунары. З цёмных вакон, якія былі пазатыканы рознымі лахманамі, цягнула досыць вільготнай хатняй паветрай.

У гэты час у хатцы вырашалася вельмі важная справа.

— Ну, то глядзі-ж, Андрэй!..—казаў Васіль.—Бо калі ўжо цяпер мы не дастанем семсуды, то лепш нам не зьвяртацца да сваіх бацькоў... Непатрэбен будзе і трактар...

— Ня маю я надзеі!—махнуў рукою Сымон.—Гэта-ж ужо год і шэсьць месяцаў прашло, як мы з‘арганізавалі комуну і за гэты час улада павінна была нам дапамагчы, а тут... толькі так кажуць!.

Такімі словамі выпраўлялі комунары Андрэя ў горад.

Учора яны атрымалі паперу, ў якой гаварылася што на складзе ім належыць атрымаць трактар які куплены шэфам для іх комуны.

Апрача таго, Андрэй спадзяваўся атрымаць семсуду.

— Дарэмна вы, хлопцы, трывожыцеся,—супакойваў Андрэй Сымона і Васіля.—У паперы ясна напісана, што трактар ужо куплены, засталося толькі паехаць на склад і прывезьці. А што тычыцца семсуды, то, як я быў у іх апошні раз, мне сказалі, што на нашу комуну абавязкова адпусьцяць. Дык вось я і пастараюся, каб адным махам забіць двух зайцаў.

З гэтымі словамі Андрэй разьвітаўся.

---

Нядзеля.

На вуліцы ўжо зьмяркалася.

Густы мяккі пах садовых кветак напаўняў цёплае і пыльнае паветра. Ля хат, як заўсёды, бегалі і крычалі бесклапотныя дзеці, брудныя, абарваныя з пакудлачанымі валасамі, а старыя паразьбіваўшыся на кучкі вялі сякую-такую гамонку.

Раптам з боку гасьцінца пачуўся якісь, незнаёмы дасюль у вёсцы, шум. Спачатку слабы, пасьля ён з кожнай хвілінай разрастаўся і нарэшце сваім імпэтам і магутнасьцю ахапіў усю вёску.

Крынічанцы перш зьдзіўлена слухалі, ня ведаючы скуль паходзіць гэты шум, а пасьля пачалі непакоіцца:

— Ці ты, Макар, нічога ня чуеш?

— Як-бы штось гудзе?!

— Але-ж, гудзе!..

— Што-б то магло быць?..

Кучкі заварушыліся, пачалі зьбірацца ў адну вялікую кучу.



Адзін мельнік ня змог з тым згадзіцца.

Раптам з аднаго канца вёскі пачуўся крык дзяцей:

— Уцякайма!...

Гэта-ж мядзьведзь!..

— Але чаму-ж ён на колах?..

— А які страшны!..

І яны з крыкам кінуліся на ўцёкі, лямантуючы на ўсю вёску:

— О-о-о-ё-ё-ёй!.. Мядзьведзь!.. Мядзьведзь!..

— Дзе мядзьведзь?.. Які мядзьведзь?.. — пыталі зьдзіўленыя мужчыны.

— Ды, вунь, па гасьцінцы прэ нейкая зьвярына!..—адказаў нехта.

У гэты момант у канцы вёскі пака-

ваўся трактар, які з шумам, пыхкаючы, панёсься па вуліцы.

З-заду, на памосьце з дашчок, на якім ляжала чатыры мяшкі збожжа, прымасьціўся Андрэй. На твары яго адбівалася вялікая радасьць.

Трактар застанавіўся ля хаты комунараў.

Крынічанцы сабраліся ля трактара і з цікавасьцю пачалі аглядаць яго з усіх бакоў, поркаючы пальцамі. А мельнік наперадзе ўсіх. Ён абышоў наўкола трактара некалькі разоў, памацаў яго, нават прылёг на жываце і пад ніз паглядзеў, а пасьля падняўся і з важнасьцю знатака сказаў:

— Нічога з гэтага ня будзе!.. Ня пойдзе!.. Вы адно паглядзеце на колы. З гэткімі коламі трактар па ральлі ня пойдзе!..


З цікавасьцю пачалі аглядаць з усіх бакоў.

— Што ты ў гэтым дзеле разьбіраеш!.. — ткнуў яго ў жывот пальцам Андрэй.—Вось ён цябе зараз як трахне!..

Зарагаталі крынічанцы. Зарагаталі ня толькі з слоў Андрэя, але і з таго, што да гэтага часу ніхто не асьмельваўся сказаць мельніку такое слова.

Пачырванеў мельнік ад злосьці, але пабаяўся адказваць. Ён адчуў, што яго аўторытэт сярод сялян з гэтай хвіліны лопнуў.

Доўга не разыходзіліся сяляне, аж пакуль ноч сваімі чорнымі крыльлямі не навісла над вёскаю.

Андрэй, Сымон і Васіль усю ноч прасядзелі ля трактара.

— А што, калі ня пойдзе?—сумняваўся Сымон. —Засьмяюць нас тагды. Ад аднаго мельніка прыдзецца ўцякаць з вёскі...

— Пойдзе!..—з пэўнасьцю сказаў Андрэй.—На што-ж бы нас абманвалі. Улада-ж наша падводзіць нас ня будзе.

І назаўтра раніцою, як толькі пастух выгнаў у поле кароў, трактар разбудзіў усю вёску. Комунары ехалі араць.

Уся вёска вышла за імі на поле. Кожнаму хацелася паглядзець.

Мельнік і той прышоў.

Узышоў трактар на вучастак, пастаяў, як-бы раздумваючы, а пасьля задрыжэў, загуў, і разам вырваўся з сотні селянскіх грудзей крык захапленьня, пахвалы... а з таго крыку вылучаўся голас Сымона, які зьняўшы шапку крычаў:

— *Эх*, міленькі, не паддайся!.. Не паддайся, міленькі!.. Дакажы!..

Сяляне кучаю йшлі ўсьлед за трактарам, прыглядаліся да пахаты.

— Добра арэ, браткі, мае!..

— Вось добра было-б, каб нам такога каня дастаць!.. га?!.

— Дорага каштуе!

— Што дорага, гуртам трэба, дык ня будзе дорага!..

— Ды можна й аднаму...

— На што ён аднаму?..

— Гэ-э, брат!.. Нашоў-бы работу!..

. . . . . . . . . . . . . . .

З тэй пары крынічанцы толькі й гутаркі маюць, што аб трактары, аб комуне.

# НА ЎЛОНЕ ПРЫРОДЫ.

Ясна, цёпла, дзень пагодны,
Сонца смаліць і пячэ.
Утаміўся касьбой хлопец,
Пот па сківіцах цячэ.
А на ўзьмежку—там дзяўчына
Спачывае ў халадку.
Вось хлапец і падлятае,
Нібы труцень да мядку.
Падсеў блізка, прысланіўся,—
Жартаваць ахвоту меў.
Глянь за словам слова, сьмешкі.
Няпрыкметна час ляцеў.

Міла хлопец час зганяе,
Ў вочы дзеўчыне глядзіць.
Ну, а тая, як квактуха,
Нос насупіўшы сядзіць.
Ўрэшце хлопец ня уцерпеў:
„Годзе, кажа, сумаваць,
Глянь, як жыта, вунь, красуе,
Як прыгожа сенажаць!
Сонца песьціць нашы душы,
Водар кветак з-пад лугоў.
Гэткім днём і закахацца,
Аж на сьмерць-бы я гатоў!

Столькі чараў ды аздобы,
Як уранічным бы сьне!
Ну, а ты, скажы, што чуеш,
Калі можна ведаць мне?“
Што я чую?. Хай іх ліха!
У вушах адно чуваць:
Парасятам не давала,
Дык галодныя пішчаць.

**Альбэрт Паўловіч.**




Юрка Лявонны.

# Перамога.

*(Малюнак).*

У сельсавеце, куды ўваліўся Жлобаў, вульлём гудзеў народ...

За простым, пакрытым чарнільнымі і іншымі плямамі, вялікім сталом сядзеў сакратар.

Старшыня—„сам“ Гаўрыла Канаплёў—прыляпіўся збоку, на стале, каля вялізнай груды розных „лістоў адзінага сель.-гасп. падатку“, „сьпісаў“ і „пратаколаў“.

Гэта быў чалавек гадоў 40. Сярэдняга росту, у белай, палатнянай вопратцы гарадзкога фасону, старых чырвонаармейскіх „бутцах“, саламяным капялюшы і з надзвычайна моцным горлам...

Раней, як ён сам казаў—Гаўрыла служыў на бойні, у Маскве; потым прашоў нямецкую і грамадзянскую войны і, „абцёршыся аб жыцьцё“—засеў у Рахманавічах...

Зараз ён адкінуў капялюш на патэльню, слухае і перабірае пальцамі бліскучы белы ланцужок ад гадзіньніка, які ляжыць у левай кішэні побач з неабходнай паперай...

Вакол — крычыць, сіпіць і таўхаецца натоўп рознастайнага жыхарства—ад сівых дзядоў і кабет да дзяцей піонэрскага ўзросту...

— Дык ён мяне як садане пад дзевятую рабрыну!.. Ну, я і... значыцца... Не сьцярпеў!.. Чым там было—даў... Жаліцца высокі, чорны „старавер“, з даўгой барадою, у змазаных дзёгцем ботах.

— А навошта ты, сабачы сын, гарадзіў яго, а? Чаму ў людзей ня спытаў?! Хай на цябе пагібель...—

— А-ат... Вы, цётка Марыля, заусёды... Неяк...

— Хто вас ведае!.. Кіньце... Далі-бог!..—

— Як гэта? Я-ж яму...—

У гэты момант дзьверы жалобна запішчэлі і як-бы неахвотна ўпусьцілі ў пакой Жлобава...

— Гаўрыла, эй, чуеш?.. Дзядзькі, пусьцеце!..—

— Ну?...—

— Ды ня „ну“, а сапраўднае гора...—

— У чым справа, Хвядос?..—

— Кабыла мая... Памятаеш—варaная гэткая... Тае, брат... Няма!—

— Скапуцілася?—

— Няўжо-ж... Учора ўвечары... Разумееш?.. А што рабіць цяпер?.. Авёс ня сеяў, пад бульбу не араў... Хоць лажыся, ды здыхай!..

— Дрэнна, браток... Гэта праўда... Не спрачаюся...—У гутарку ўмяшаўся тутэйшы комсамолец, Грышка Анціпаў...

— Што дрэнна?.. Няма дабра без бяды—сказаў нехта... Трэба арцель організоўваць... Сабярэмся гуртам—ды й трахтар выпішам!..

— І ныць няма чаго!..—

— Ну-у... З трахтарам—пачакай!..

А каб ахвотнікаў паболей знашлося—дык і чакаць непатрэбна!..

— Ці праўда?. —

Агульны шум патроху сьціх. Прысутныя сабраліся ў кола...

— Яно, можа й так... Але...—

Гаўрыла - старшыня—раптам ускочыў на ўслон, побач з Грышкам.

— Так яно... Грамадзяне, таварышы!.. Ён-хоць і хлапец,—а ў галаве нешта мае... Слухайце...

— Сколькі коняй у нашай вёсцы, а?..—

— Ды ня йначай адна падла на тры двары... Што казаць...

— Ну, вось... І кароў-ня вельмі... А што, калі-б нам і сапраўды злажыцца... У пазычковым таварыстве ўзяць крыху...

— Ды й машыну выпісаць—у раскладку, як гаворыць...

— Машыну, кажаш?.. Хто яе ведае...—

— Машына гаспадарку тваю адразу падыме—прагаварыў Грышка...

Дзядзькі чухалі ніжэй саматканых паясоў. Спрачаліся, разважалі. Усе былі надта зацікаўлены новай думкай...

Разышліся па дварох толькі позна ўвечары, падпісаўшы ў „канцэраліі“ даўгі белы аркуш...

* *
*

Аднойчы—праз некалькі тыдняў— Рахманаўскае поле ўбачыла тое, што яму й ня сьнілася...

Па жоўта-бруднай дарозе, пужаючы адгалосьсем ваколіцу, шпарка бегла нешта незнаёмае, на катках з новымі лемяхамі, яшчэ не цалаваўшымі зямлю...

З-заду машыны круціўся пыл.

К таму часу, калі трактар пад'ехаў да сельсавету, за ім бегла ўжо радасна-вясёлая грамада хлапцоў і дзяўчат...

У першым шэрагу быў Грышка Анціпаў—комсамолец Рахманаўскай ячэйкі...

# ВЕРШЫ.

Ізраіля Плаўніка.



### Сонца...

I

Засьвяціла сонца ў тваіх вочах,
Завілася праменем каса...
Разарвала сьветам цені ночы:
Засьвяціла сонца ў тваіх вочах...
І расьсекла сэрца мне каса,—
Да цябе рвануўся я ахвоча!..
Засьвяціла сонца ў тваіх вочах,—
Завілася праменем каса...

II

Жыцьцё, як сонца, мчыць наперад:
Не адставай-жа ні на крок!..
Знай, без сьвятла—пужае змрок...
Жыцьцё, як сонца, мчыць наперад.
Фарбуй праменьнямі узрок
І абыходзь багну і нерат!..
Жыцьцё, як сонца, мчыць наперад...
Не адставай-жа ні на крок!..

### Засьпявала...

Засьпявала, засьпявала раньне птушкай:
Удалося цёмну ночаньку загушкаць,
цёмну ночаньку загушкаць.
Чэзьлі—таялі, як мары, цені-хмары:
замігцелі сьлёзы радасьці ў папарах,
сьлёзы радасьці ў папарах.
Апраналася праменьнямі крыніца;
Цалавала ясна сонца лозы ніцы,
цалавала лозы ніцы.
Ой хадзіла ля крынічанкі дзяўчына,
Ды зьбірала росы буйныя ў лагчыне,
росы буйныя ў лагчыне.
Умывала тварык белы, малажавы;
Выглядала, нібы раньне ў кветках, травах,
росным раньнем ў кветках, травах.

### Сузор'і.

I

Гэты вечар—зорны вечар...
Штось задумаў гай-старэча,—
Чую шопаты ў гальлі...
А ў даліне месяц сіні
З туманамі тчэ тканіны,
Расьцілае па ральлі...
Ружавеюць ласкай зоры—
Заклікаюць у прастору...
Мкнецца з зорамі душа.
Серабрыцца твань-балота
І чаруе сьпеў чарота...
Ахмяляе рос імжа!..
Клічуць зоры, вабяць зоры,
Навяваюць казкі бору...
Б'ецца сокалам душа...
Раптам чую рокат хваляў—
Рвуцца ўперад буйным валам..
Гэй за імі шаг-у-шаг!..

II

Я хачу разгадаць думы зораў,
Што сплятаюцца ў сініх узорах...
Я хачу зразумець гоман рэчкі,
Што зьліваецца з шопатам грэчкі...
Ой пайду я ў зялёнае поле,
Дзе расіцы мігценьнем сваволяць...
Расьцьвілі васілёчкі у жыце—
Сок жыцьцёвы з пялёсткаў імжыцца..
Ой пайду я сьцяжынкай, лагчынай—
Там спаткаю галубку—дзяўчыну...
Месяц вешае тасмы тканінаў
Ды на вецьце красуні—каліны...
Мы унікнем у чары суценьня
І азорым таёмнасьць праменьнем!..
Хай сьмяецца за рэчкаю вецер,
А разблытаем сінія сеці!..

III

У небе імглістым тры зоркі луналі,
Як вочкі дзяўчыны, брыльлянты-каралі,
Сьвяцілі-міргалі, вясёлкай ігралі.
Як дзеткі улетку, яны выраcталі,
Як кветкі, блішчэлі у высі, у далі,
Як птушкі-салоўкі, у небе сьпявалі...
Дзівіліся дрэвы на зоркі на тыя,
Дзівіліся цені паўночы густыя,
Дзівіліся хвалі крыніц залатыя.
І месяц ім з промінаў слаў падарункі,
І вербы казалі ім байкі-шаптункі,
І ночка галубіла шчыр-пацалункам.

* * *

Угледзіла зорак тых сівера хмара,
Счарнела ад злосьці, як цёмная мара,
Памчалася к зоркам па сініх папарах.
І зорак зьбялелых зларадна глынула,
І цішу прарэзала шумам і гулам,
І жудасьць, і цемень зямлю апранула!..
Загінулі, зоркі у момант сканалі,
Заплакалі змрочныя блізі і далі,
Балючая скарга зьвінела у хвалях!..

# Комсамол і коопэрацыя.

## Удзел комсамола ў коопэрацыі.

Да сучаснага моманту комсамольскія ячэйкі і камітэты зьвярталі зусім мала ўвагі на працу коопэрацыі. У вёсцы, дзе коопэрацыя іграе асабліва важную ролю, там комсамольцы вельмі часта ня прымаюць ніякога ў ёй удзелу.

Пайшчыкамі зьяўляюцца выключна комсамольцы-самастойныя гаспадары.

На актыўнай коопэрацыйнай працы знаходзіцца нязначная колькасьць комсамольцаў. Ячэйкі часта „казённа" высоўваюць прадстаўнікоў, не абдумаўшы добра, падыходзіць ці не гэты таварыш на даную працу, дзякуючы чаму вялікая частка такіх прадстаўнікоў зьяўляюцца толькі „мэбляю" у праўленьнях або рэвізыйных камісіях.

Маюцца такія выпадкі, калі комсамольцу сяляне даручалі адказную працу ў коопэрацыі і ён яе правальваў і, нават, былі выпадкі растрат.

Селянін у нас перш за ўсё практык. Ён лічыць коопэратыў тады добрым, калі адчувае гэта на сваёй кішэні.

У вёсцы коопэрацыя хварэе атсутнасьцю належных працаўнікоў. У Аз.-Слабадзкім сельсавеце 2 разы з'організоўваўся спажывецкі коопэратыў, 2 разы зьбіраліся з сялян паі і абодва разы за атсутнасьцю добрага працаўніка коопэратыў меў страты і зусім зачыняўся. У блізкім часе, наўрат, ці будзе магчымасьць у трэці раз сабраць паі і organізаваць коопэратыў. Сяляне кажуць, што коопэрацыя—гэта такая штука, дзе прападаюць грошы.

У нас на выбары праўленьняў і рэвізыйных камісіяў не зьвяртаюць належнай увагі. Да сходу пайшчыкаў кандыдатуры не падрыхтоўваюцца, не абгаварваюцца, а на самым сходзе часта праходзяць выпадковыя кандыдатуры і часта ў праўленьне коопэрацыі пападае кулак, які знарок імкнецца падарваць працу коопэрацыі, бо ў гэтым ён зацікаўлены.

Некаторыя коопэратывы замест таго, каб быць напоўненымі мануфактураю, газаю, сольлю, мылам, і г. д.,—завалены ўсялякімі нікчэмнасьцямі, як, напрыклад, пудраю, цукеркамі і інш.

Маюцца выпадкі, калі ў вясковых коопэратывах некаторыя прадметы каштуюць даражэй, чымся ў прыватнай краме, і гэта здараецца ад таго, што бывае шмат ня вытворчых, не патрэбных накладных выдаткаў.

У той час, калі прыватны крамнік едзе ў горад для закупкі тавараў раз у два тыдні, а то і радзей, дык некаторыя нашы коопэратывы пасьпяваюць за гэты час пабыць у горадзе па некалькі разоў.

Комсамольцы павінны ўсімі сіламі і сродкамі дапамагаць выяўленьню гэтых недахопаў, гэтых перашкод у працы, зьнішчыўшы якія, нашы коопэратывы будуць апраўдваць сябе.

Бліжэйшымі задачамі ўдзелу комсамолу ў коопэрацыйнай працы 7-мы Усесаюзны зьезд комсамолу намеціў:

1. Вывучэньне тэорыі і практыкі коопэрацыйнай працы.

2. Умацаваньне працы па коопэрыраваньню шырокіх мас моладзі і сялянства, у першую чаргу комсамольцаў, асабліва *комсамольцаў-гаспадароў.*

3. Уважлівы падбор і правільнае кіраўніцтва, як выбранымі комсамольцамі ў коопэрацыйныя органы, так і прадстаўнікамі і практыкантамі.

4. Зьвярнуць больш увагі на коопэрацыйныя пытаньні, як у саюзным друку, так і ў агульнай працы ячэек, мясцовых камітэтаў і ЦК, *зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу ў галіне сельска-гаспадарчай коопэрацыі, як асноўнага віду вытворчай коопэрацыі.*

Удзел у коопэрацыйнай працы павінен стаць штодзённай працай нашых ячэек.

**В.**

## Што павінен рабіць комсамолец выбраны ў коопэрацыйную організацыю.

1. Растлумачваць працоўнаму насельніцтву значэньне коопэрацыі, уцягваць яго ў коопэрацыю.

2. Прымаць удзел у прапрацоўцы пляну працы коопэратыву і самому прымаць удзел у практычнай працы коопэратыву.

3. Праводзіць працу па павялічэньню асноўнага капіталу коопэратыву, каб акуратна ўносілі паі і своечасова зьвярталі крэдыторы належачыя з іх грошы.

4. Комсамолец павінен весьці сур'ёзную барацьбу з накладнымі выдаткамі і з скурадзёрствам. Комсамолец павінен дамагацца памяншэньня цэн на прадукты і тавары ў коопэрацыі, каб спажывец, той хто купляе, убачыў сапраўдную карысьць ад коопэрацыі.

5. Сачыць за тым, каб у коопэрацыі быў заўсёды той тавар, які патрэбен сялянству.

6. Агітаваць сярод сялян і кустароў, каб яны збывалі свае прадукты праз коопэрацыю, калі даны коопэратыў іх купляе.

7. Сачыць за тым, каб працаўнікі коопэрацыі ўважліва адносіліся да спажыўца.

8. Сачыць за правільнаю справаздачаю коопэратываў.

9. Рабіць справаздачу перад сваімі выбіральнікамі, расказваць ім аб мерапрыемствах, якія праводзяцца коопэратывам.

10. Прымаць актыўны ўдзел у культурнай працы коопэратыву.

11. Рабіць справаздачу аб сваёй працы перад комсамольскай і партыйнай ячэйкаю, высоўваць перад ячэйкаю пытаньні зьвязаныя з працаю коопэратыву.




Драбкін.

# Дапамога комсамольскай ячэйкі беднаце ў летні час.

Галоўнай задачай кожнай комсамольскай ячэйкі на вёсцы зьяўляецца—дапамога партыі ў падняцьці сельскай гаспадаркі праз больш культурныя формы апрацоўкі зямлі, праз разьвіцьцё культурных формаў у вядзеньні гаспадаркі, у той-жа час накіроўваючы разьвіцьцё сельскае гаспадаркі па соцыялістычнаму шляху, праз коопэрыраваньне яе. Але-ж, дапамагаючы партыі ў выкананьні гэтай задачы, трэба памятаць, што партыя адначасна ставіць сваёй мэтай, каб побач з агульным гаспадарчым узростам вёскі, уздымам бедняцкай гаспадаркі, павесьці іх па пэўнаму шляху, недапусьціць іх падпасьці пад уплыў кулака.

Дзе-ж павінны тут паказаць сябе комсамольскія сілы?

*Перш за ўсё аб непасрэднай гаспадарчай дапамозе беднаце ўлетку.*

У летнюю пару галоўнае—гэта дапамагчы бедняку ў рабоце на гаспадарцы: дапамагчы своечасова сабраць з поля збожжа, дастаць к восені насеньня, плуг, каня, ці якую-небудзь патрэбную машыну, а іншым гаспадаркам—і рабочай сілай, асабліва сем'ям чырвонаармейцаў, інвалідам вайны, удовам. Якія тут можна знайсьці спосабы? Да гэтага часу некаторыя ячэйкі, якія прабавалі брацца за гэта, галоўным чынам браліся за працоўную дапамогу, організуючы працоўныя арцелі. Там, дзе ячэйка змагла добра наладзіць працу арцеляй, яны дапамагалі падняцьцю аўторытэта комсамолу на вачох сялян. Трэба і цяпер пашырыць гэту форму дапамогі, але абавязкова утвараючы арцелі пры камітэтах узаемадапамогі (па сельсавету, ці лепш па асобных вёсках), уцягваючы туды дарослае сялянства. У час пакосу, уборкі ўраджаю, засеву жыта, арцелям будзе шмат працы. Але апрача таго, трэба больш узяцца за організацыю дапамогі гаспадаркі і іншымі спосабамі.

Дастаць плуг, машыну—ячэйка непасрэдна ня можа. Гэта трэба рабіць праз камітэт узаемадапамогі ці праз коопэрацыю—праз організацыі на сродкі камітэтаў, коопэратываў, пракатных пунктаў, якія за невялікія грошы (дабіўшыся скідкі для беднаты) давалі-б селяніну, якому гэта патрэбна, машыну на пракат. Другі шлях—гэта сельска-гаспадарчы крэдыт. Ячэйка, асабліва комсамольцы, якія працуюць у камітэтах узаемадапамогі, павінны цікавіцца тым, каб крэдыт пападаў і беднаце (пад парукі камітэтаў узаемадапамогі). Апрача таго, Савецкай уладай адпушчаны сродкі для дапамогі беднаце. Трэба зацікавіцца ня толькі тым, каб гэтыя сродкі папалі сапраўды бедняку, але і тым, каб грошы з гэтых фондаў, ці крэдыт, адтрыманы ў сельска-гаспадарчай крэдытнай коопэрацыі, пашлі-б сапраўды на падняцьце гаспадаркі, на куплю насеньня, каня, каровы, плуга і г. д., а ня былі-б раскіданы на магчыма і неабходныя патрэбы, але не дапамагаючыя ўмацаваньню гаспадаркі. Таксама неабходна скарыстаць і сродкі самога сялянства, організуючы машыннае таварыства (уцягваючы туды і беднату) для супольнай закупкі машын. Што ня можа зрабіць кожны паасобку—можа зрабіць колектыў.

Яшчэ адным з шляхоў умацаваньня бядняцкай гаспадаркі зьяўляецца уцягненьне бедняка ў коопэрацыю. Коопэрацыя дае ільготы беднаце ва ўплаце паю: па раскладцы з прыбыткаў коопэрацыі вылучаецца фонд для ўзносу паю за тых, хто і на ільготных умовах ня можа яго ўнесьці. Трэба аб гэтым паведаміць беднату і ўцягваць яе ў коопэрацыю, скарыстаўшы гэтыя ільготы.

На гэтым не павінна спыніцца дапамога комсамольскай ячэйкі беднаце. Трэба азнаёміць беднату з ўсімі тымі ільготамі, якія дае савецкая ўлада ёй: падатковымі, лясными і іншымі—дзеля чаго кожны комсамолец павінен усе гэтыя ільготы ведаць. І наогул дзеля таго, каб комсамольская ячэйка магла быць абаронцам інтарэсаў беднаты ва ўсіх управах ад кулацтва—трэба, каб кожны комсамолец ведаў добра зямельны, лясны кодэксы, законы аб сельска-гаспадарчым падатку, усе важныя дзеля сялянства дэкрэты савецкай улады.

І апошняе—партыя у сваёй палітыцы на вёсцы апіраецца на беднату, супольна з ёю ўтварае саюз з серадняком. Дзеля таго, каб замацаваць уплыў беднаты на грамадзкае, палітычнае жыцьцё вёскі, уплыў партыі ў сельсаветах і коопэратывах, а таксама захаваць там інтарэсы беднаты—партыя ўтварае ў сельсаветах, у коопэратывах групы беднаты, склікае сходы беднаты перад важнымі кампаньнямі (прыцягвае туды і актыў з сераднякоў), утвараючы такім чынам адзіны фронт беднаты з серадняком пад кіраўніцтвам партыі супроць кулака. І ў гэтай палітычнай працы комсамол павінен быць першым памочнікам партыі, прыцягваючы на сходы бядняцкую і батрацкую моладзь, а таксама ўсё бяднейшае сялянства, прымаючы актыўны ўдзел у іх правядзеньні.

Гэтым комсамольская ячэйка можа (і павінна) дапамагчы партыі ў паляпшэньні становішча беднаты на вёсцы, у падняцьці яе гаспадаркі і ў організацыі беднаты навокал партыі.

# ВАЙСКОВАЯ СТАРОНКА.

## Рыхтуйцеся да прызыву.

Недалёка час прызыву ў шэрагі Чырвонай арміі моладзі нараджэньня 1904 г. Адначасова з прызывам уліваецца ў армію сьвежая хваля комсамольскай моладзі. Перад імі стаіць вялікая адказная задача: да прызыву растлумачыць прызыўнікам стаячыя перад імі задачы і насельніцтву—задачы прызыву, якім парадкам прызыў павінен быць праведзены ў вёсцы.

Адначасова з прызывам, калі будзе абвешчаны загад і вызначаны тэрмін яўкі, па глугіх кутках, асабліва ў вёсках, разнясуцца чуткі, што пачынаецца вайна, што дзеля гэтага прызываюць моладзь. Тут трэба растлумачыць, што гэта прызыў чарговага ўзросту моладзі, на зьмену выслужыўшых тэрмін чырвонаармейцаў, якія, пасьля прыбыцьця ў часьці новых прызыўнікоў, будуць дэмабілізаваны. Маладняк іх павінен замяніць.

Гэту працу павінны загадзя правесьці комсамольцы як прызыўнікі, так і ячэйкі. Неабходна растлумачыць насельніцтву задачы, якія стаяць перад кожным з прызыўнікоў у асобку і ў агульным.

Таксама трэба растлумачыць кожнаму прызыўніку задачы Чырвонай арміі, гэта павінен яскрава прадстаўляць кожны прызыўнік, каб у гэтым годзе зьнішчыць той няправільны погляд на Чырвоную армію, які наглядаўся ў мінулым.



Чырвонаармейцы ў вольную гадзіну.

У мінулым пры адпраўцы прызыўнікоў у часьці на мясцох ім, не разумеўшы часта справы, некаторыя тавар. гаварылі, што Чырвоная армія—гэта школа, што тут можна навучыцца чаму толькі пажадаеш, у выніку чаго прызыўнікі прыбыўшы ў часьці высоўвалі гэтыя пытаньні. У часьцях яны імкнуліся да вучобы, вучобы спэцыяльнай і іншай, адсоўваючы назад плян вайскова-палітычнай вучобы, якая ў Чырвонай арміі стаіць на першым месцы.

Чырвоная армія ня ставіць сабе задачай падрыхтоўкі розных спэцыялістаў, яна ставіць сабе задачай падрыхтаваць сьвядомага грамадзяніна-байца, добрага стралка,—вось што стаіць перад Чырвонай арміяй у першую чаргу, гэта і выконваецца. Што тычыцца іншай спэцыялізацыі, дык гэта таксама не забараняецца, але гэта не стаіць задачай перад Чырвонай арміяй, гэта задача стаіць перад вайскова-навуковымі ўстановамі і школамі, дзе і высоўваюцца спэцыялісты, зноў такі для Чырвонай арміі. Вывучэньне пабочных спэцыяльнасьцяй апрача вайскова-палітычнай справы, магчыма ў вольны час у пазашкольным парадку. Кожны баец мае магчымасьць вывучаць тое, што яго цікавіць. Гэтаму дапаможа Чырвоная армія.

Комсамолец-прызыўнік гэта павінен яскрава ўявіць і растлумачыць кожнаму з прызыўнікоў, каб яны ясна, выразна разумелі тыя задачы, якія стаяць перад імі ў Чырвонай арміі.

Кожны комсамолец на зборным пункце, у паходзе і ў Чырвонай арміі павінен таксама зьяўляцца прыкладам для іншых, як і на вёсцы. На страявых, палітычных занятках, у клюбе, казарме—комсамолец павінен быць першым. Гэтага можна дасягнуць толькі штодзённай упартай працай над сабою, трэба кожны раз правяраць сябе, кожны свой учынак трэба абмазгаваць, каб ісьці ўпэўнена, проста, ня хістаючыся, памятаючы, што на нас прыглядаюцца астатнія таварышы, што яны сочаць за намі і кожным нашым учынкам добрым і кепскім, што яны ад нас навучаюцца. Адгэтуль, мы павінны ім паказаць прыклад, заўсёды павінны быць першымі. Сваім прыкладам вучыць гэтаму астатніх сваіх таварышоў.

А дзеля гэтага, асабліва перад прызывам, комсамольцы павінны павесьці адпавядаючую прызыву працу. Яшчэ мацней згрупавацца самім і згрупаваць вакол сябе моладзь з тым, каб прызыў прайшоў організавана, каб ня зьбірацца па аднаму, а разам па раёнам.

Апрача ўсяго сказанага нельга ня спыніцца на тых выпадках, якія наглядаліся ў мінулым годзе—гэта п'янства, дзебашырства і „рэкрутчына“, што як бы пераходзіць ад часу былых царскіх прызываў, калі навабранцы-прызыўнікі забываліся пра ўсё і ўсіх, куцілі беспрасыпу целыя месяцы перад прызывам, чынілі розныя няпрыемнасьці, хуліганілі, грамілі ўсё, што пападалася перад імі...

Неабходна комсамольскім організацыям загадзя правесьці належную працу, растлумачыць прызыўнікам, што яны не зьяўляюцца „сляпой зброяй буржуазіі„, якой зьяўляліся навабранцы пры царскіх прызывах, а што яны зьяўляюцца сьвядомымі грамадзянамі, будучымі байцамі рабоча-сялянскай Чырвонай арміі, што п'янству, хуліганству і выпадкам „рэкрутчыны“ ў нас ня месца.

**М. Дзярэча.**



# НАША ЖЫЦЬЦЁ.

## Расьцем і мацнеем.

(*Чырвона-Слабодзкая райорганізацыя КСМ, Слуцкай акр.*).

Зараз усіх сяброў у нашай організацыі налічваецца—247 чэл.

Рабочая моладзь комсамолам абхоплена на 80 проц. Слаба ўцягнута ў комсамол батрацтва і дзяўчаты.

Разам з ростам організацыі гэткім самым тэмпам ішоў рост актыву.

Зараз комсамольцаў высунутых на актыўную працу налічваецца 49 чал. у той час, калі нядаўна іх налічвалася 37. Дзяўчат актывістак—7.

Выключэньняў за гэты тэрмін было 4. Зараз наша організацыя вялікі ўплыў мае на грамадзкія вясковыя організацыі: комсамольцаў-сяброў сельсаветаў налічваецца 17, з іх 3 працуюць старшынямі і 4 сэкратарамі саветаў. Сяброў селькому—23 чал.

Усё гэта ўжо гаворыць за тое, што мы расьцем і мацнеем у сваіх шэрагах.

**Міхась Шпілеўскі.**

## Комсамолім вакольныя вёскі.

(*Рудзенская яч. ЛКСМБ, Меншчына*).

Наша комсамольская ячэйка амаль што кожны тыдзень праводзіць сходы па вёсках нашага сельсавета.

На сходзе прысутнічае шмат беспартыйнай моладзі і сялянства. Сялянства надта цікавіцца тымі пытаньнямі, якія ставяцца на парадак дню. Актыўнасьць сялянства ў справе абгаварваньня тых ці іншых пытаньняў надта вялікая.

Шкада толькі, што сходы праводзяцца ня кожны тыдзень і не ва ўсіх вёсках.

— Больш гэткіх сходаў:—такое пажаданьне да Рудзенскай яч. ЛКСМБ. Думаю, што ячэйка адклікнецца на голас сялян.

**Беспартыйны.**

## Аб гуртку ні слуху, ні духу.

(*Паддзягцярская ячэйка ЛКСМБ, Пухавіцкага раёну*).

У летняй працы нашаму сельска-гаспадарчаму гуртку трэба было ўзяцца за практычнае правядзеньне ў жыцьцё тых ведаў, якія былі набыты сябрамі яго ўзімку.

Але наш сельска-гаспадарчы гурток, нават, і не падумаў аб гэтым.

Вучоба прапала дарам.

Ці-ж варта было марнаваць дарма час? Падумайце аб гэтым тыя, хто сядзеў па некалькі гадзін у чатырох сьценках—у хаце- і слухаў лекцыі па палепшаньню сельскай гаспадаркі.

А. Мімаходны.



## Больш такіх сходаў.

(Г. *Вулевічы, Случчына*).

У чэрвені Жылехаўская ячэйка ЛКСМБ задумала зрабіць у в. Гулевічы комсамольскі сход.

На сходзе прысутнічала шмат беспартыйнай моладзі, хлопцаў і дзяўчат, а таксама старых сялян.

Былі пастаўлены два пытаньні—аб міжнародным становішчы і аб алкаголі.

Пасьля кожнага дакладу моладзь прыняла актыўны ўдзел у абгаварваньні пастаўленых пытаньняў.

Больш за ўсё абгаварвалі пытаньне аб самагонцы.

Некаторыя сяляне даводзілі ў спрэчках, што самагонка ня шкодна для здароўя.

Урэшце ўсё-ж такі згадзіліся з дакладчыкам, што самагонка—шкода, з якой трэба змагацца і прапанавалі часьцей рабіць у в. Гулевічы такія сходы.

**Васіль Чыгір.**

## Праца заняпала.

(*м. Сьмілавічы, Меншчына*).

Сьмілаўская яч. МОПР'у налічвае ў сваіх шэрагах 200 сяброў. Але карысьці ад гэтага няма ніякай.

Як толькі з'організавалася ячэйка, праца вялася добра: быў з'організаваны гурток МОПР'у, дзе ставіліся даклады, праводзіліся зяняткі, выпісвалася літаратура. І гэта было датуль, пакуль тут працаваў т. Ваўчок, які цікавіўся гэтай працай. Але як паехаў гэты працаўнік, дык паехала за ім і праца. Ужо болей, як паўгода ня было ніводнага сходу, паўгода не плацілі сяброўскіх узносаў, некатэрыя сябры дык і свайго сэкратара забыліся.

Неабходна ячэйцы ЛКСМБ і КП(б)Б зьвярнуць на гэта належную ўвагу, патрэбна склікаць сход ячэйкі і выбраць новае бюро, якое-б узялося за гэту працу і паставіла яе на належную вышыню.

**П. Федорак.**

## Ня курэце на сходах!

(*м. Капыль, яч. ЛКСМБ пры с/с. Случчына*).

Сход комсамольскай ячэйкі. Клюб біткам-набіты комсамольцамі і беспартыйнаю моладзьдзю.

Адчыняецца сход. На парадку дню цікавы даклад, але дзе тут да яго: той, хто хацеў-бы слухаць і ўцяміць што небудзь, дык ня можа. А чаму? А вось, бачыце, як толькі пачнецца сход і аж пакуль скончыцца, дык нашы комсамольцы бясперастанку кураць, у клубе носяцца хмары дыму, якія выядаюць вочы атраўляюць організм.

Так на далей не павінна быць. Кожны павінен раз на заўсёды запамятаць, што *курыць на комсамольскіх сходах забараняецца!*

**Н—ны.**

## Больш увагі.

(*м. Сьмілавічы, Менскай вакругі*).

М-ка Сьмілавічы зьяўляецца культурным асяродкам раёну. Тут маецца нардом, клюб, ячэйка ЛКСМБ, якая налічвае 70 сяброў і яч. КП(б)Б, маецца і шмат актывістых з беспартыйных. І ня гледзячы на ўсе гэтыя спрыяючыя ўмовы, праца аднак сярод беспартыйнай моладзі стаіць слаба.

Відаць гэта з таго, што беспартыйная моладзь амаль кожны вечар зьбіраецца дзе-небудзь у хаце і спраўляе вечарынкі, а ячэйкі нават і не падумаюць, каб гэтыя вечарынкі скарыстаць для працы, унесці ў іх што небудзь цікавае і карыснае.

Скоса глядзіць ячэйка і на таго комсамольца, які задумае пайсьці на гэтыя вечарынкі.

Хіба-ж так павінна быць?—Не і не!

Сьмілавіцкая ячэйка ЛКСМБ павінна не адмяжоўвацца ад батракоў, якія зьяўляюцца актыўнымі ўдзельнікамі вечарынак, а паставіць справу так, каб беспартыйная моладзь убачыла недарэчнасьць скокаў і прыняла актыўны ўдзел у будаваньні новага здаровага быту і жыцьця.

На гэта трэба зьвярнуць больш увагі.

**Язэп.**



## Трэба памагчы.

(*Вёска Міхалевічы, Шацкага раёну, Меншчына*).

Моладзь у нашай вёсцы, ня гледзячы на тое, што недалёка ад нас знаходзіцца ячэйка ЛКСМБ, жыве пастарому, падаўнейшаму. У вёсцы няма ні клюбу, ні хаты-чытальні, няма нават ніякага гуртка. Па вячарох і ў вольную гадзіну моладзь устрайвае розныя гулянкі, напіваецца самагону і справа іншы раз даходзіць да бойкі. Дзеці з малых гадоў прывучваюцца курыць і нават вельмі часта 14 гадовы хлапец ходзіць за паўбутылкай. У вёсцы ніякай працы ні ячэйкай, ні піонэр-організацыяй не вядзецца. Больш перадавая моладзь блудзіць ня ведаючы з чаго пачаць. Трэба на гэта зьвярнуць увагу Шацкай ячэйцы і памагчы моладзі вылезьці з цемры.

Юнселькор **Вясковы.**

## Мо' коргурток ажывіць „Прамень".

*(Смалявіцкая ячэйка ЛКСМБ, Меншчына).*

Як толькі падыходзіць тэрмін выпуску чарговага нумару насьценгазэты „Прамень", ну, дык-жа і бяда. Уся рэдакцыя бегае, як падсмаленая,—няма матар'ялу. І каб сказаць, што тут рэдакцыя вінавата, дык нельга. Колькі спосабаў выдумляла яна, каб давалі заметкі, колькі разоў абвяшчала, што ўсе комсамольцы зьяўляюцца корэспандэнтамі сваёй газэты і павінны к чарговаму нумару даць ня менш аднэй заметкі,—нічога ні памагала.

Цяпер рэдакцыя прыдумала іншы спосаб. Як толькі трэба выпусьціць газэту, дык каторы небудзь з сяброў рэдакцыі падыходзіць да актывістага і:

— Ты павінен напісаць у насьценгазэту толькі-та заметак...

І так насядзе, што і ня выкруцішся. Газэта пішацца як-бы па заказу і насьпех, загэтым і ня цікавая. Якая-ж прычына таму, што ніхто ня піша ня толькі ў сваю насьценную, але і наогул у газэты? Бо ня было гуртка дапісчыкаў, дзе-б хлопцы вучыліся як пісаць у газэту, часопісь. Цяпер у нас гэткі гурток organізоўваецца. Вось хіба цяпер мы навучымся пісаць і наш „Прамень" засьвеціць ясьней.

**Янка Кім.**

## Комсамольцы дапамаглі.

*(Вёска Талоўнікі, Койданаўскага р.)*

Цёмнай была наша вёска, цёмная была і моладзь. Увесь вольны час ішоў на вечарынкі з ужываньнем самагону. Гэтыя вечарынкі звычайна канчаліся бойкамі. Цяпер наша моладзь апомнілася і паступова вылазіць з цемры.

Раней у вёсцы Валоўнікі ня было ніводнага комсамольца, а цяпер 4 чалавекі, ды ёсьць яшчэ жадаючыя ўступіць у шэрагі комсамолу, сярод якіх ёсьць і дзяўчаты.

Дзякуючы комсамольцам ня толькі моладзь, але старыя сяляне выпісваюць і чытаюць газэту „Беларуская вёска". Выпісалі 15 экзэмпляраў „Чырвонай Зьмены", 6 экзэмпляраў „Маладога Аратага". Газэты і кніжкі прыцягнулі да сябе моладзь і наогул усіх сялян вёскі.

Цяпер нашы комсамольцы думаюць, каб як небудзь адчыніць хату-чытальню і ўсю сваю працу перанесьці туды.

Комсамольцы нашае вёскі карыстаюцца аўторытэтам з боку сялянства. За ўсякай парадаю сяляне зьвяртаюцца да комсамольцаў. Комсамольцы абраны ў сельсавет.

**Юнселькор А. С.**

## Організуем піонэр-атрад.

*(Камен-Борская ячэйка ЛКСМБ, Бярэзінскага раёну, Барысаўшчына).*

Па працы сярод дзяцей Камен. Борскай ячейкай КСМ вылучаны комсамолец па прозвішчы Стрэльскі В., які пачаў сваю працу ня так даўно. Але дзякуючы актыўнасьці гэтага комсамольца і ўмеламу падыходу да вясковых дзяцей, ужо організавана 28 чал. На кожным зборы у атрад залічаюцца ўсё новыя і новыя дзеці.

**В. Мімалётны.**



Ажыцяўленьне лёзунгу: „У здаровым целе—здаровы дух".

## 75 проц. дзяцей у атрадах.

*(Шацк, Меншчына).*

За 2-х годзе свайго існаваньня Шацкая піонэр-організацыя значна ўзрасла і разгарнула сваю працу ў м-ку і акаляючых яго вёсках, больш бліжэйшых. У піонэратрадах, якіх маецца 3, налічваецца больш за 75 проц. дзяцей піонэрскага ўзросту м-ка. Ва ўсіх атрадах маецца каля 135 піонэраў. (Адзін атрад яўрэйскі і два беларускіх). За ўвесь час перадалі ў ячэйку 8 піонэраў. Кепска толькі тое, што ў атрадах вядзецца слаба выхаваўчая праца і маецца ўжо шмат піонэраў, якіх ня зусім здавальняе з гэтай прычыны праца ў атрадзе. Напрыклад, за апошнія часы атрады працуюць бяз плянаў, плян даецца заўсёды ў палове месяца. Ячэйка, зьвярні на ґэта ўвагу!

Таксама вельмі кепска падабраны павадыры, якія ня могуць добра працаваць.

Юнселькор **Вясковы.**

## За год працы.

*(Койданаўская яч. ЛКСМБ пры с/с.).*

Ужо роўна год, як наша сялянская ячэйка вылучылася ў самастойную. За гэты час мы можам заўважыць посьпехі ў працы ячэйкі. Добра пастаўлена справа паліт-адукацыі, існуюць палітшкола, гурток актыву і гурток па вывучэньню статуту. Ячэйка вырасла на 30 чалавек. Цяпер у ячэйцы налічваецца 50 чалавек. Многа ўступіла ў ячэйку дзяўчат і батракоў. Наогул мы маем шмат дасягненьняў.

**Юнкор Адамчык.**

## Трэба ажывіць.

*(Жылехаўская ячэйка Мопр'у, Случчына).*

Пры жылехаўскай ячэйцы ЛКСМБ была заснавана яшчэ з восені леташняга году ячэйка Мопр'у. З пачатку свайго існаваньня яна працы амаль ніякае не вяла. Кіраўнікі гэтае організацыі нават ня ведаюць якія ў ёй знаходзяцца сябры і колькі іх. Прычыны гэтаму тыя, што ячэйка ніякае працы не вядзе, слабая актыўнасьць з боку кіраўнікоў, а таксама і саміх комсамольцаў. Па другое - раённая ячэйка Мопр'у не дае ніякага кіраўніцтва.

Неабходна ў хуткім часе ажывіць працу ячэйкі.

**Ч.**

## Неабходна заснаваць гурток фізвыху.

*(В. Гулевічы. Случчына).*

Моладзь нашай вёскі імкнецца да ажыцьцяўленьня лёзунгу; „У здаровым целе—здаровы дух".

Дзеля гэтага яна з сваіх сродкаў пабудавала раўналежныя брусься, на якіх і праводзяцца заняткі.

Маюцца, нават .некаторыя дасягненьні.

Толькі вось кепска, што няма сродкаў, каб набыць якія небудзь іншыя прылады.

Неабходна вылучыць кіраўніка і заснаваць гурток па фізвыху.

**В. Ч.**



# ЧАСТУШКІ

### Дзявочыя.

Кіну пудрыцца бяліцца,
Кіну бровы падвадзіць:
Лепш пачну ой я вучыцца,
У кэ-сэ-мэ буду хадзіць.

Вось за што я пакахала
Комсамольца Цішку:
Ён чытае нам, дзяўчатам,
Ленінскія кніжкі.

Ах люблю, люблю глядзець
На свайго Амельку,
Як ён трактарам арэць
Чорную зямельку.

**Гусьляр.**



# ПАД ГАРМОНІК.

### Комсамольскія.

Відаць, Грышка—комсамолец
Толькі на паперы.
У смак цягне самагонку,—
Няма ліку, меры.

Вечарэе на дварэ,
Загарэлісь зоркі.
У ячэйцы нашай ёсьць
Юнкоры й юнкоркі.

Комсамольцу наўсягды
Трэба не забыцца:
Крыж на шыю не чапляць,
Богу не маліцца.

**Зах. Бульбянік**




Сьц. Тупяневіч.

# Паляпшайце сваё поле праз пасеў лубіну.

Ніводная расьліна, якою карыстаецца земляроб, ня мае такога шпаркага пашырэньня у беларускіх сялян, як лубін. Дваццаць пяць год таму назад лубін амаль у пяршыню паказаўся на палёх Меншчыны і Бабруйшчыны. Пачалі яго сеяць памешчыкі ў сваіх маёнтках, а гледзячы на іх памаланьку сталі сеяць лубін і сяляне.

Перад вайною лубін ужо добра ведалі і карысталіся ім сяляне Меншчыны, Случчыны і Бабруйшчыны, асабліва там, дзе глебы былі пескавыя і малаўраджайныя.

Лубін добра рос на папары і даваў зялёнае ўгнаеньне пад жыта.

Але ў час вайны і рэволюцыі, калі гаспапаркі нашых сялян значна занялалі, зьвёўся і лубін. Рэдка можна было спаткаць гаспадара, які захаваў лубін, падсяючы яго на насеньне. У продажы насеньня лубіну ня было і цана яго паднялася да 2 пуд. жыта за пуд.

*Так было да 1922 г.*, калі Наркамзем БССР закупіў у Новазыбкаўскім павеце 22.000 пуд. лубіну і перавёз яго ў 5 паветах ранейшай Меншчыны. Савецкія гаспадаркі, як і шмат якія сялянскія, пачалі купляць (атрымоўваць) і разводзіць лубін.

З таго часу да сёлетняга дню прайшло толькі 4 гады, а справа з лубінам зусім зьмяніліся. *Лубін ужо вядомы амаль кожнаму гаспадару некаторых акруг, вядомы кожнаму комсамольцу, настаўніку і г. д.* Зараз лубін сеюць шмат сялян замест дарагіх угнаеньняў.

Падкрэсьлім гэта лічбамі. У 1925 г. па ўсёй БССР было пасеяна лубіну 41.821 дзесяцін, або 1,7 проц. усяго засеву.

Для гэтага году ёсьць яшчэ больш цікавыя лічбы. Лубін вясною купляўся сялянствам вельмі ахвотна. Усяго на Беларусі раскуплена лубіну 33.546 п.

А трэба сказаць, што шмат лубіну было высеяна і з свайго насеньня. Прыблізна можна лічыць, што, напрыклад, Менская акруга свайго насеньня мела ў два разы больш, чым купленага, а купіла яна 9.883 п. Таксама большую частку свайго насеньня лубіну мела Слуцкая і Бабруйская акругі. Усе іншыя акругі толькі ў астатнія два-тры гады пачынаюць заводзіць лубін і свайго насеньня амаль зусім ня мелі. Адным словам, для гэтага году плошчу лубіну прыблізна можна лічыць пашыраную на 25-30 проц. а г. з. што яна дайшла ўжо да 50-55 т. дзесяцін на БССР.

Яшчэ цікава адно зьявішча, што ў гэтым годзе ўсё насеньне лубіну было закуплена ў нас-жа на БССР (Слуцкая, Менская і інш. акр.). Гэта нам сьведчыць, што *лубінізацыя Беларусі прымае сталы напрамак, што лубін—не апошняя спіца ў павышэньні ўраджаяў.* Праз год-два наш селянін, пэўна, будзе прадаваць лубін Смаленшчыне ў абмен на фасфарыты ці іншым губэрням СССР на *тамасаўку* і *касьцяную муку*, бо патрэба ў мінэральных угнаеньнях штогод расьце. (У гэтым годзе па БССР было раскуплена 177.160 пуд. мінэральных угнаеньняў, шмат дзе іх нехапала).

Вось які значны посьпех знаходзіць у БССР новае ўгнаеньне лубінам.[1]

Цяпер некалькі слоў аб больш разумным выкарыстаньні лубіна на ўгнаеньне.

1. *Ня варта пазьніцца з заворваньнем лубіна пад жыта.* Даволі пачакаць пакуль зьявяцца першыя бабкі, каб гэту пару лічыць найлепшай для заворваньня лубіну.


Жоўты лубін.

Хто лубін спазьніўся пасеяць, то прыходзіцца заворваць яго раней, тыдні за два да сяўбы жыта.

2. *Калі лубін пасеяны рана, і ёсьць надзея, што да восені ён пасьпее высьпець, то невялікі кавалачак яго трэба заставіць на насеньне.*

3. *Увосень яго вырываюць з карэньнем або жнуць і вяжуць у снапы,* добра сушаць і малоцяць вясною, бо за зіму яго буйнае насеньне можа папсавацца.

4. *Калі ў гаспадара ёсьць раньні ячмень або рана прыбіраецца жыта, то поле з-пад іх можна яшчэ ў гэтым-жа годзе засеяць лубінам на ўгнаеньне.*

Да восені лубін дасьць шмат залёнай масы. Вясною яго можна заараць і пасеяць бульбу. Гной у такім разе пад бульбу не патрэбен будзе. Сеяцца лубін у аржоньні ці пасьля ячменю ў адну воранку.

Такі пасеў лубіну ў аржоньні ўжо практыкуецца сялянамі ў некаторых раёнах (Узда, Асіпавічы і г. д.)

Наогул жа можна сказаць, што зараз на Беларусі не павінна быць ніводнага гаспадара, комсамольца ці вясковага хлопца, які не практыкаваўся-б на лубіне.

[1] Трэба сказаць, што пашырэньню лубіна спрыяла агітацыя аграномаў, дзяржаўныя прэміі, ільготы па падатку і г. д.




# Да новага жыцьця.

**Драма ў 2-х актах.**

Дзеючыя асобы:

1. *Базыль*—бедны селянін, 48 год.
2. *Маці*—жонка Базыля, 45 год.
3. *Ганна*—іх дачка, 18 год.
4. *Вольга*—сястра Ганны, 16 год.
5. *Васіль*—малады хлапец, паўстанец, 20 год.
6. *Пан*—40 год.
7. *Алеся*—сялянская дзяўчына, паўстанка, 18 г.

Палякі і паўстанцы.

АКТ І.

(Сялянская хата. Направа ад дзьвярэй стаіць стол засланы абрусам. Налева ад дзьвярэй стаіць столік прыгожа прыбраны. На сьцяне вісяць малюнкі).

Зьява І.

*Ганна* (сядзіць у задуменьні. На каленях у яе ляжыць палатно, а ў руцэ іголка з ніткаю): О, як цяжка! (Глядзіць ў вакно). На вуліцы цьвіце вясна, птушкі пяюць, сонейка зьзяе, а ў мяне на сэрцы халодная, дажджлівая восень. (Прыкладае руку к сэрцу). І чаго яно так б'ецца, як быццам птушка ў няволі, мусіць, чуе нешта нядобрае... (уздыхае). Можа палякі Васільку злавілі, а можа яны майго бацьку замучылі? Я ня знаю, але сэрца чуе трывогу, (паказвае пальцам у вакно), вось там, там за садам, у панскіх палацах колькі людзей сядзіць у няволі, працуюць, аж крывавы пот льлецца, а за гэта іх б'юць, катуюць... (Горача) Эх! каб я магла, я-б вызваліла ўсіх сялян з няволі. Але нічога! гэта скора будзе, не дарма Васіль з таварышамі ў лесе жыцьцё марнуе, але скора выйдуць і яны на шлях лепшага жыцьця! (Чуваць стук). О, нехта йдзе, а я кашулі і ні як ня шыла. (Шые і сьпявае).

Зьява ІІ.

(Ганна і Волька).

*Волька* (уваходзіць з букетам ў руках): Вось, Ганна, я нарвала кветак у панскім садзе.

*Ганна*: Волечка, сястрыца, што чуваць?

*Волька* (спужана): Чаму, што здарылася? Нешта ты, як быццам заплаканая...

*Ганна*: Ды не, Волечка, я так, спала. Скажы, што чуваць? я ні куды ня йду, ніякіх навін ня ведаю, а ты-ж ходзішь каля панскіх палацаў, усюды, дык можа ты знаеш што небудзь пра Васіля ці...

*Волька* (перабівае): Што? пра Васіля? я пра яго і слухаць ні хачу, ён-жа разбойнік, у лесе сядзіць, супроць паноў хоча ісьці... Разбойнік ён, разбойнік!

*Ганна*: Эх, сястрыца! гэта ты кажаш, бо нічога не разумееш. Сядзь, сястрыца, каля мяне, я табе растлумачу. (Волька садзіцца). Волька, чаму ты такая цёмная, што ня можаш уцяміць. Паны—гэта-ж нашы ворагі, яны нашу мужычую кроў п'юць. Нашы бацькі, дзядзькі працуюць на іх, а яны ім чым адплачваюць?—нагайкамі. Ці помніш ты як нашага брата паны кінулі галодным зьверам і яны яго зьелі?—мусіць ты ўжо забылася...

*Волька* (слухае і вельмі часта ўздыхае): Добра! але, каб ня было паноў, дзе-ж бы мы дзеліся, дзе-б узялі зямлі, хлеба? (Горача). О, не гавары на паноў, бо з голаду памрэш. Хоць і мы працуем на іх, нас б'юць, але хлеба даюць.

*Ганна:* Сястрыца, гэта нам пан дае хлеб, бо ён мяне любіць, а другім сялянам ён нічога не дае. „На чайкі“, (уздыхае) толькі „на чайкі“. Сястрыца, чаму ты гэтага ня можаш зразумець... (У бок). О, цемната, цемната!

*Волька:* Дык чаму ён цябе любіць, гэты крывапійца?

*Ганна*: Ён думае, што я буду яго жонкаю, але не, лепш я памру, але не аддамся гэтаму панскаму недавярку, цьфу!..

*Волька* (увесь час думае. Потым усхватваецца з мейсца і падбягае да Ганны): Сястрыца, родная, я зразумела, я зразумела тое, чаго не магла сабе ўцяміць да гэтага часу.

*Ганна*: Ну вось, сястрыца, ня слухай так паноў, як слухала, ня падай перад імі на калені, а слухай лепш мяне. Будзеш слухаць?

*Волька*: Буду, Ганначка!

*Ганна*: Слухай, Васіль і другія хлопцы-паўстанцы, якія ты казала йдуць супроць паноў, сядзяць у лесе на балоце, ім трэба кожную нядзелю прыносіць есьці і весткі аб тым, што тут робіцца. І ці сягоньня, ці заўтра, усёроўна мы вызвалім бедных сялян з няволі. Згаджаешся памагчы мне ў гэтай справе?

*Волька:* Ганначка, я на ўсё згодна, каб толькі вызваліць працоўных сялян, якія сядзяць у няволі, бо я цяпер зразумела...

*Ганна*: Але-ж ты сьцеражыся, каб ніхто цябе ня прыкмеціў, а то ты можаш жыцьцём заплаціць.

*Волька*: Мне цяпер ня дорага жыцьцё. (Чуваць стук).

*Ганна*: Ціха, нехта йдзе.

Зьява III.

(Тыя-ж і бацька).

*Бацька* (уваходзіць з сякераю): О, як замарыўся! (Ставіць сякеру ў вугал). Баляць рукі, сьпіна, у вачох цёмна (схіляцца над сталом), каб здаецца меў свой кусок зямлі, што-б я хацеў, знаў-бы, што працую сам на сябе, а то працуй на чорта лысага, яшчэ б'юць катуюць. (Паднімае рукаў, на руцэ відаць раны).

*Ганна* (спужана): Татачка, што гэта?

*Бацька*: А нічога, гэта пан мне маленькі падарунак даў.

*Ганна*: Як гэта?

*Бацька*: А так, вельмі проста паклікаў мяне пан к сабе, ды кажа: „даўно я цябе ўжо гасьціў“.. расьсек мне мяса і сольлю пасыпаў, і кажа: „вам, мужыкам, заўсёды мала солі, дык цяпер мо' даволі будзе. (Пауза). А дачку тваю ўсёроўна забяру, яна будзе ў мяне“...

*Ганна* (з плачам): Татачка, родненькі, я баюся яго, ён мне страшны. (Горача). О, я цярпець больш ня буду, я пайду падпалю ўвесь маёнтак разам з панамі, я вызвалю працоўны народ! Даволі зьдзеку, нявінных сьлёз! Няхай усё йдзе пажарам! (Бяжыць да дзьвярэй. Бацька і Волька ня пускаюць).

*Волька*: Сястрыца, родная супакойся!

*Бацька*: Ах ты вырадак, на мейсца сядзь! (стукае ў дзьверы). Маці, а маці, ідзі сюды.

Зьява IV.

(*Тыя-ж і маці*).

*Маці* (уваходзіць): Чаго табе трэба?

*Бацька*: Ты бачыш... (Паказвае на Ганну).

*Маці* (спужана): Што гэта? гавары скарэй. На што дзяржыце?

*Бацька*: Падпаліць, згубіць нас хацела.

*Маці* (хрысьцячыся) Што ты? ашалела? гэта-ж, моцны божа, у турму хоча! (Галосіць—да чаго я дажылася).

*Бацька*: Ну, расплакалася! Ціха кажу.

*Маці*: Ай, ай паноў ня слухаць!

*Ганна*: Мамачка, за што іх слухаць? за гэта, што яны нашу кроў смокчуць, за гэта, што рэжуць наша цела ды сольлю пасыпаюць. О, не—даволі! (Рвецца, Волька ня пускае).

*Бацька*: Сядзь на мейсца, кажу табе! Брадзяга!

*Ганна*: Помста, помста ім! Вось і ўсё!..

*Маці*: Дачушка, дарагая, пакінь ты з толку сходзіць, жыві, як жывецца (Плача).

*Бацька* (перакрыўлівае): Э-э-э..... Вон на кухню, там твая справа!

*Маці*: Ох, няшчасная я! (З плачам выходзіць, за ёю Волька).

Зьява V.

(Бацька і Ганна).

*Бацька:* Цяпер сядзь, я з табой пагавару, як бацька. Слухай-жа мяне старога. Наш пан цябе вельмі кахае, ён просіць мае згоды і твае рукі. Ты да заўтра—каб была гатова. Бо як пачнеш так гарачыцца, то і нам, старым, кепска будзе і табе таксама. (Злосна). Слухай, каб ты мне пра галаданца таго ні гаварыла, бо за ім ты хлеба есьці ня будзеш, каб ты мне ня сьмела думаць аб ім. Сабака, разбойнік! Яго-ж бацька ў турме згніў.



Пастушка.

*Ганна* (горача): Тата, ня сьмейце аб ім так гаварыць, ён такі чалавек, як і вы, а вы яго сабакам абзываеце. За што ён заслужыў гэтага, за тое што хоча вызваліць сялян з пад панскай нагайкі і з жалезных кайданаў? Тата! лепш бы вы ўзялі і ўсадзілі мне нож у грудзі, чым сьмець яго так абзываць, такія Васілі надта дарагія людзі.

*Бацька* (сьмяючыся): Ага задзела, а каб гэта на пана так сказаў. Нябось, не загарачылася-б так.

*Ганна:* Пэўна, бо ён гэтага варт, крывапійца...

*Бацька:* Што? (Стукае кулаком аб стол). Ціха, гэта ня наша справа, ці варт ён, ці не... але ляпей скажы ты мне, ці ты згодна на тое, што я табе казаў, ці не? Даволі табе з толку сходзіць, ты не маленькая, пара падумаць.

*Ганна:* Я ўжо даўно падумала і абдумала.

*Бацька:* Што?

*Ганна:* Нічога, я кажу, што я не аддам свайго чыстага сялянскага сэрца панскаму недавярку, гаду....

*Бацька* (перабівае): Ціха, замаўчы бяз спрэчак, я сказаў і ўсё, больш нічога ня можа быць, ты павінна слухаць. Чуеш ці не?

*Ганна* (падыходзіць к бацьку): Татачка, родненькі, не аддавайце мяне за польскага паназдрадніка, пашкадуйце мяне, татачка, ня губеце мяне, я яго баюся, ён мне страшны, праціўны...

*Бацька:* Адыдзі ад мяне, я табе нічога не памагу, бо і я такі нявольнік, як і ты.

*Ганна* (схіляецца над сталом і сьпявае):

Татка родны, мяне пашкадуйце,
Маладзенькая жыць я хачу.

У панскую клетку мяне не саджайце,
Бо сьлязамі яе я змачу.

*Бацька* (ласкава): Дачушка, родная пакінь, твае словы рэжуць маё сэрца; але-ж нічога памагчы табе я не па гу, бо я-ж таксама ў няволі, як і ты. (Паўза). Дачушка, няўжо настане той час, калі сялян вызваляць з няволі і нашы раны, сінякі загояцца. (Паднімае рукаў, на руцэ відаць сінякі), О, як цяжка гэта зносіць!

*Ганна*: Тата, гэтыя людзі, якіх вы назвалі сабакамі, як, напрыклад, Васіль, яны вызваляць нас з няволі. (Уваходзіць маці).

З ь я в а VI.

Т ы я-ж і м а ц і.

*Маці* (сьпяшаючы): Пан да нас прыехаў, ён зараз сюды ўвойдзе. (Бацька выходзіць).

З ь я в а VII.

Г а н н а і м а ц і.

*Ганна*: Мамачка, я яго баюся, ён страшны. (Плача).

*Маці*: Дачушка, гэта нічога, што ён прыехаў. Пабудзе трохі ды паедзе, ня нам з ім займацца. Ня плач, бо сьлязьмі нічога не паможаш. (Уваходзіць пан).

З ь я в а VIII.

(Т ы я-ж і п а н).

*Пан*: Дзень добры, панна Ганна. (Садзіцца на заслоне каля Ганны, Ганна ўцякае ад яго і садзіцца на другім заслоні).

*Ганна* (ў бок): Мне гадка глядзець на цябе, гадзіна!

*Пан*: Панна, Панна! (Падыходзіць пад яе і садзіцца каля яе).

*Ганна* (злосна): Я ня панна!

*Пан*: Але вы хутка будзеце паннай.

*Ганна*: І спадзявацца няма чаго, я паннай ня была і быць ня буду і з панам сядзець не хачу. (Адварачваецца).

*Пан*: Панна Ганна, я цябе люблю і ты павінна быць маёю.

*Ганна*: Чаго вы ка мне прысталі, вон з мужычае хаты, у нас усё чорна і мы чорныя, вы сваю вопратку папэцкаеце. Прэч адгэтуль, я мужычка і на панскі капыл мяне не перавернеце, з мужыка пана ня зробіш. Шукайце сабе паню, а мяне мужычку пакіньце. Вось і усё.

*Пан*: Вы будзеце маёю паннаю. (Паднімае горда галаву).

*Ганна*. Чаго да мяне прыстаў, пакінь мяне адну, дай мне падумаць аб тым каго я кахаю, я цябе не кахаю і кахаць ня буду, дарэмна мяне мучыш.

*Пан* (устае з месца, на якім сядзеў, ходзіць па хаце, са злосьцю): Што? Каго ты кахаеш?

*Ганна*: Гэта мая справа, я ня хочу, каб ты сваім паганым ротам назваў яго імя.

*Пан* (не зьвяртае ўвагі на тое, што Ганна гаворыць): Нічога, ты свайго любага ня ўгледзіш, як свайго вуха, ты павінна яго забыць, бо ён для цябе памёр. (Лашчыцца ля Ганны).

*Ганна*: Я прашу мяне не чапаць. (Пяе).—
Маё сэрца так баліць,
Маё сэрца рвецца,
А ты, гадзіна, сядзіш
Нада мной сьмяешся. (Плача).

*Пан* (у бок): Будзеш ты, паганая, у няволі стагнаць, будзеш свае сьцежкі сьлязьмі паліваць.

З ь я в а IX.

(Т ы я-ж і б а ц ь к а).

*Бацька*: Ну, што, дачушка, згаджайся, што-ж зробіш...

*Пан*: Яна і так згодзіцца.

*Бацька*: Паночку, даражэнькі, пакіньце яе нам...

*Ганна* (перабівае): Тата, не прасеце яго, свайго ворага, гадзіну, якая вас кожную часіну жаліць.

*Пан*: Ціха, паганая, як сьмееш так казаць. Ня хочаш жыць у панстве, так будзеш у няволі стагнаць.

*Ганна*. Мне ня страшна няволя, бо хутка нявольных ня будзе.

*Бацька*: Дачушка, перастань, бачыш пану так угодна.

*Ганна*: Пану ўгодна, а можа мне ня выгодна я яго слухаць ня буду.

*Пан*: А я і ня ведаў, што за птушка жыве ў маім маёнтку. Ну, што гаварыць: пойдзем да мяне, у пакоі. (Злосна). Бяз спрэчак, маё слова—закон! (Хватае за руку). Пойдзем! (Б'е Ганну нагайкай).

*Ганна* (як ужаленая, кідаецца на пана і пачынае яго тармашыць): Гадзіна, я не пайду к табе, я не запаскуджу свайго сялянскага сэрца. Прэч адгэтуль! (Пхае пана).

*Пан* (крычыць): Карауљ, сюды жандары! (Убягаюць два жандары з крыкамі: „Ні з мейсца!“ Ганна падбягае і выхватвае рэвольвэр, хоча страляць у пана, жандары выхватваюць рэвольвэр, зьвязваюць рукі Ганне. Убягае маці і Волька).

*Волька*: Сяструца, родная! (Кідаецца да яе. Ганна стаіць і плача, валасы ў час барацьбы распусьціліся).

*Пан* (сьмяючыся): О, даражэнькая! Надумалася з арлом змагацца, ха-ха-ха-ха!

*Маці*: Дачушка, дарагая! (Галосіць).

*Ганна*: Даволі! (Да Волькі). Сястрыца, мае просьбы не забудь...

*Пан*: Ну вядзеце яе ў пакоі (Ганна рвецца, крычыць: „Дайце мне разарваць гэту гадзіну. Зраднік!“

*Пан*: Ха-ха-ха! Цяпер ты ў маіх руках!

*Бацька* (падыходзіць да пана): Паночак, даражэнькі. (Кідаецца на калені). Пусьцеце яе! (Пан адпіхае).

*Ганна* (вырывае рукі, хватае конаўку са стала і кідае на пана): Гадзіна, крывапійца... Тата, чаму вы мяне не паслухаеце хоць раз, перад кім вы падаеце на калені, перад агідным куском мяса, перад гадзінаю, зьверам.....

*Пан*: Вядзеце яе скора.

*Ганна*: Дайце мне апошні раз пацалавацца з бацькамі. (Маці галосіць „дачушка, дарагая, куды цябе забіраюць“).

*Пан*: Ціха, быдла. Ну вядзеце. (Паганяе нагайкай. Усе плачуць).

З А С Л О Н А.

Л. П.

(*Канец будзе*).

# Комсамольская творчасьць.

(*Па матар'ялах, прысланых у рэдакцыю „Маладога Аратага“*).

З пашырэньнем друкаванага слова сярод самых шырокіх колаў працоўных, узрастае і актыўнасьць чытачоў у працы па творчасьці гэтага слова. І сапраўды, калі паглядзець на ўсе нашы выданьні, мы бачым, што складаюцца яны ў пераважнасьці з матар'ялаў саміх чытачоў. Кваліфікаваныя сілы (журналістыя, пісьменьнікі і публіцыстыя) у нашых масавых выданьнях, пэрыодычных газэтах і часопісях паступова пачынаюць губляцца і быць няпрыкметнымі. Гэтыя выданьні маюць усё больш і больш ўхіл у бок уцягненьня ў журнальную працу самую масу, якая чытае тую ці іншую часопісь або газэту.

Вакол кожнага выданьня групуюцца дзесяткі і сотні дапішчыкаў, якія надсылаюць у часопісь тое самае цікавае і карыснае, на чым будуецца часопісь. Найчасьцей дапішчыкі зьяўляюцца толькі інформатарамі жыцьця і працы на мясцох. Гэта першая ступень на шляху росту дапішчыка, яго развіцьця і пашырэньня сьвядомасьці ў галіне корэспандэнцкай працы. Але, з часам, гэты-ж дапішчык (здольны, працавіты і настойлівы) пачынае пераходзіць у пісьменьніка. Ён ужо не здавальняецца толькі перадачай фактаў, а стараецца знайці прычыну і сувязь між гэтымі фактамі. Поруч з гэтым, ён пачынае ўжо шліфаваць, адточваць гэтыя факты мастацкім словам, удасканаленай прыгожай мовай.

Вось на гэтай мяжы, нам здаецца, і пачынаецца пераход ад корэспандэнцыі да апавяданьня, вершу інсцэніроўкі, спачатку маленькіх, якія часамі цяжка і адрозьніць ад корэспандэнцыі, і па тэхніцы, і па передачы фактаў, пасьля значна ўзрастаючых і ў сэнсе афармленьня, як твору чыстага літаратурнага тыпу і ў сэнсе яго якасьці наогул.

Але вось бяда ўся ў тым, што ня так лёгка даецца ўсім літаратурная праца, як гэта можа здавацца на першы погляд.

Некаторыя заўважваюць так: „Ну, што-ж тут складанага ў тым, каб напісаць, скажам, апавяданьне ці п'есу?—Узяў любую тэму, апісаў яе з усіх „бакоў“ і—справа на гэтым канчаецца.

На гэта можна адказаць: не, такі погляд на літаратуру і працу ў гэтай галіне зусім няправільны. Каб гэтак яно лёгка рабілася, то напэўна-б ніводны дапішчык не адтрымаў адказу: *Ня пойдзе, слаба напісана і г. д.*

Дык вось бачыце, што і тут ёсьць нейкая прычына, нейкая тайна, як кажуць, чаму аднаго таварыша творы зьмяшчаюцца, а другога не.

Вось аб гэтым мы і будзем гутарыць на старонках нашай часопісі. Для прыкладных ілюстрацый мы пастараемся па магчымасьці браць матар'ял з рэдакцыйнага портфэля, каб такім чынам зразу злавіць двух зайцаў: паказаць таму ці іншаму таварышу яго хібы або дасягненьні і на гэтым разьвязваць агульныя для ўсіх дапішчыкаў пытаньні, якія паўстаюць у іх працы, у „пробе пяра“. Тэма нашай гутаркі, бязумоўна, вельмі вялікая і абхапіць яе на сьцісла вызначаных старонках часопісі ніяк немагчыма. Вось дзеля гэтага мы пастараемся адзначыць толькі самае галоўнае і пільна патрэбнае. Мяркуючы па надасланаму матар'ялу, нам патрэбна будзе будаваць сваю гутарку па наступным тэмам: Вершаваная творчасьць і проза, куды ўвойдуць апавяданьні і п'ескі.

### Вершаваная творчасьць.

Ня хвалячыся, пісаных твораў у форме вершаў у століку рэдакцыі маецца больш 1000 ы...

Гэта ўсё вершы канца 1925 і пачатку 1926 г.г. Пры гэтым трэба адзначыць—вершы не скарыстаныя ў часопісі. Такога ўздыму ў сваёй творчай энергіі наша моладзь дасягнула толькі ў свабоднай краіне Саветаў, у краіне, дзе яна адчувае сябе сапраўдным будаўніком новага жыцьця ва ўсіх яго галінах. Гэта тая моладзь, якая вуснамі свайго таварыша *А. Атавы* шчыра заяўляе:

> Я сёньня поэта,
> Поэта й араты...

Гэта тая моладзь, якая непасрэдна зьвязана з працай і жыцьцём свайго роднага сяла. І вось гэтая праца і актыўны ўдзел у ёй моладзі выклікае палёт думкі, узбуджае натхненьне да перадачы ўсяго бачанага на паперы. Пасьля фізычнай працы, шмат якія таварышы бяруцца за пяро:

> ...Бяру паперу ды пяро
> І на паперы твор я свой выводжу
> Пад загалоўкам: „Роднае Сяло“.

**Вясёлы.**

Так, усё гэта добра. Усё гэта характэрна для нашай бурнай эпохі. Іначай і быць ня можа. Але, вось гэта адно „але“... на гэта „але“ т. *Шандора* ў сваім вершыку „Малады я сялькор“ адказвае так:

> Больш пісаць не магу,
> Мала сілы ў мяне...
> Гэтым кончу свой твор
> З пад пяра маяго.
> Даў я імя яму—
> „Малады я сялькор“.

т. Шандора зусім правільна падкрэсьліў сваё становішча, а таксама і сваіх таварышоў у пісаньні словамі: „Мала сілы ў мяне“... Бязумоўна, ня фізычнай сілы, а сілы культурнай. І гэта зусім зразумела. Наша моладзь ня здолела аўладаць усімі скарбамі чалавечых пазнаньняў у розных галінах навукі. Поэты, якія вылучаюцца дзесяткамі з гушчы працоўных, у большасьці ўмеюць толькі „чытаць ды пісаць“. І пры ўсёй той энергіі, здольнасьці і актыўнасьці, якая маецца ў некаторых нашых поэтаў, творы іх зусім слабыя. Адсутнічаюць усялякія веды ў галіне літаратуры. Літаратура, як

**Нашы актыўныя супрацоўнікі.**



З. Бірала.

навука, ужо досыць старая. На працягу сваёй гісторыі яна мела шмат сваіх выдатных іменьняў, яна шмат разоў мяняла свае законы, сваю надворную і ўнутраную афарбоўку, але асноўныя прынцыпы ў пабудове твораў мяняюцца вельмі рэдка.

Скажам, калі мы чытаем твор напісаны гладка з пэўнымі павышэньнямі і паніжэньнямі голасу і другі твор, дзе нічога гэтага няма, мы заўважваем вялікую розьніцу.

Прыклад:

Грай, мая жалейка,
Пей, як салавейка.
Апявай нядолю,
Апявай няволю
І грымі свабодна,
Што жыве край родны.

**Я. Купала.**

Палыселі ў загонаў разлогі,
Вясна ўзбуджана сьмяецца,
А вецер—басяк бяздомны, убогі
Вандруе, наперад па гольлях нясецца.

**А. Захарэвіч. (кор „М. А.“)**

І ў першым прыкладзе верш растаўлены радкамі, маюцца рыфмы і ў другім мы бачым тое-ж самае, але калі ўважна ўчытаемся ў гэтыя вершы, розьніца між імі кінецца ў вочы адразу.

Папершае ў вершы А. З. мы заўважаем недакладнасьці ў пабудове сказаў мовы (Вясна ўзбуджана сьмяецца), падругое — няма музычнасьці, гладкасьці, і ў рэшце ў апошнім радку дапушчана няпраўда: „вецер наперад па гольлях нясецца“... На загонах, аб якіх піша гэты таварыш, наўрат ці маюцца гольлі, па якіх імчыцца вецер. Нічога падобнага мы ня знойдзем у адрыўку з вершу Я. Купалы.

Гэтыя недахопы маюцца бадай ува ўсіх вершах. Вось некалькі прыкладаў:

... Як ня любіць мне вясну залатую,
Што ўся харавством мігаціць.
Як песьню ня пець пра пару дарагую,
Што ўся харавством так гарыць...

**А. Н-но.**

... Успомні Паўла, друг мой мілы,
Як у вясковай цішыне
Мы вучылі „Каваленка“
У нашым Ленінскім кутку...

**П. Чартапалог.**

... Ой, як ў гэты дзень у мяне дум панаваньня
Пачынае *бурчаць* у галаве..

**К. Пчолкаў.**

... Да касьцёла і царквы
Сьцежка зарастае:
Увесь парадачак стары
Жыцьцё новае сьцірае...

**С. Дземідовіч.**

Які-ж мы вывад можам зрабіць з гэтых прыкладаў? А вывад той, што ў ва ўсіх гэтых вершах адчуваецца адзіны вялікі недахоп: Няма прадуманасьці, няма граматнасьці і тэхнікі. Складаецца такое ўражаньне, што таварышы найчасьцей проста не адрозьніваюць дописа ад вершу—мастацкага твору. Хіба-ж адрывак з ліста Чартапалога да свайго сябра, які мы падалі, можна залічыць вершам? Гэтак сама і Пчолкава, дзе думы пачынаюць бурчаць у галаве... Чаго-ж яны бурчаць? Гэтакага выразу і ў допісе не спаткаеш. Куды больш прадуманы адрывак з вершу А. Н-нага, дзе ён выказвае сваё непасрэднае замілаваньне да вясны. Але і тут ня ўсё добра. „Вясна харавством мігаціць і вясна—пара, харавством гарыць“...

Апошні вобраз ніяк не даецца зразуменьню. Апрача гэтага, вершы ня вытрыманы разьмерам, у большасьці адсутнічае рыфма, хоць вершы напісаны ў некаторых месцах і з рыфмай. Вось для прыкладу частушка С. Д. Сьпяваць яе нельга, тым больш пад гармонік.

Як-жа ўхіліцца ўсіх гэтых недахопаў пачынаючым нашым песьнярам? Самая спадзейная і правільная парада—больш вучыцца і больш працаваць над сабой, калі адчуваеш ахвоту і імкненьне да пісаньня.

Ніколі ня варта пачынаць з вялікіх і адцягненых для цябе тэмаў. Старайся ставіць і апрацоўваць тэму сьцісла, зразумела, не раскідайся з ёй на ўсе бакі. Ня добра лгаць, пісаць аб тым, чаго ня бывае ў рэчаіснасьці, або што ня можа здарыцца. Вось прыклад:

Увесь дзень працую я да ночы,
Перад усякім лыскам мушу гнуцца.
Дабра ня бачыў век у вочы,
„Дурны мужык“ з мяне сьмяюцца...

**Цішка Шпак.**

І гэта ён піша аб сабе, як аб новым камсамольцу. Хто з яго сьмяецца... перад кім ужо гэта ён згінаецца,—невядома.

Самае галоўнае—правярай свае вершы на слухачох. Ці робяць яны належнае ўражаньне? Ці захапляе слухача, свайго-ж таварыша, зьмест вершу, музычнасьць, галоўная думка і г. д.

Ня трэба лянавацца прачытаць адзін або некалькі падручнікаў па вершаваньню, дзе стала разглядаецца гэта тэма. Больш усяго вучобы і працы. Бо калі прышлеш насьпех напісаны верш да рэдакцыі, толку мала будзе з яго...

(*Працяг будзе*).

**Адказы нашым карэспандэнтам, якія прыслалі свае заметкі ў гэтым м-цы, будуць дадзены ў чарговым нумары.**

Рэдактары: А. Якімовіч. Я. Галодка.



Менск. 1-я дзярж. друк. Зак. № 3346. Галоўлітбел 1932

# Навіны навукі і тэхнікі.

## 'мовы цяжарнасьці і пол дзіцяці.

У часе імпэрыялістычнай айны зьвярнулі на сябе ўвагу актароў тыя абставіны, што лопчыкаў нараджаецца больш, ым дзевачак. І да вайны яшчэ значалася некаторая пераа жнасьць хлопчыкаў над дзеікамі ў нараджэньні. Але ў вайны гэта розьніца стала э большаю. У Расіі, наклад, да вайны хлопчыкаў аджалася на 5 процантаў ьш, чым дзевачак, у часы йны—на 8 проц. больш. сьледваньне гэтага пытаньня казала, што пол дзіцяці оцна залежыць ад тых умоў, у якіх адбываецца цяжарнасьць. Першая ўмова — *кармленьне маткі.* Калі кепска корміцца ма маці, кепска корміцца й од. Яшчэ раней даказана, о мужчынскі зародак у льным мацнейшы жаночага, якуючы чаму ён радзей забае ў вантробах маткі ў паўнаньні з зародкам жаном. А дзякуючы таму, што ў у жанчыны карміліся шмат чым да вайны, то гэтым а вытлумачыць пераважхлопчыкаў.

## ата ў моры.

ы французскі хімік жэ вылічае, колькі золата у марской . Па яго лічэньнях, ая вада зьмяшчае ў с мільярдаў кілё золата—гэтай сумы іла-б, каб аплаціць даўгі усё сьвету. Кожная тонна марской вады зьмяшчае ў сабе 50 міліграмаў чыстага золата. Калі-б вады ўсіх акіянаў і мораў выцягнуць усё золата, дык атрымалася-б колькасьць яго ў 69.000.000.000.000 кілё.

Апрача гэтага, Бэржэ выкрыў присутнасьць у марской вадзе 34 элемэнтаў. Найболей у марской вадзе зьмяшчаецца розных соляй, і хімічная прамысловасьць ужо даўно робіць крокі для выкарыстаньня марской вады. У гэтай вадзе ёсьць —ёд, хлёр, алюміні, жалеза, манган, цынк, цына, медзь, золата, радый і інш.

## Новая экспэдыцыя Амундсэна.

Вядомы дасьледчык паўночных краёў Амундсэн ізноў ладзіць экспэдыцыю к паўночнаму канцавосьсю. Грошы на гэту экспэдыцыю дае мільянэр Эльсворт, які сам хоча прымаць удзел у гэтай экспэдыцыі. Кошт усёй экспэдыцыі—прыблізна 1 з паловай мільёнаў швэцкіх крон.

Падарожжа адбудзецца на аэроплянах.

14 кастрычніка 25 рабочых выехалі на Шпіцбэрген, каб разам з мясцовымі рабочымі будаваць шкілет лётальнай машыны і будынак для яе.

## Штучны дождж.

У Ленінградзе навуковы мэліорацыйны інстытут пачынае выконваць плян вопытаў па „штучным дажджы“ для абваднення палёў у засушлівых раёнах СССР. Абвадненьне будзе выконвацца спэцыяльнымі прыладамі. Першая прылада ўжо дастаўлена з Нямеччыны і зараз адбываецца проба яе. Да красавіка інстытут атрымае з Нямеччыны 12 такіх прылад, якія будуць разасланы ў найболей засушлівыя мясцовасьці СССР (Ніжняе Паваложжа, Данская вобласьць, Туркестан і г. д.). Інстытут паслаў у Крым на вяршыню гары Ай-Пэтры спэцыяльную экспэдыцыю, якая будзе рабіць вопыты па згушчэньні вобалакаў, каб выклікаць дождж.

## Вывучэньне сухменяў у СССР.

Інстытут абсьледаваньня Кубана-Чарнаморскага краю ў Краснадары прарабіў надзвычайна цікавую работу па высьненьні прычын частай паўторнасьці засухі ў розных раёнах СССР.

Дасьледавана, што сярэдняя колькасьць выпаду вільгаці ў нашых засушлівых раёнах зусім здавальняючая для атрыманьня сярэдняга ўраджаю. На кожны пуд ураджаю патрабуецца каля 300 пудоў вады, а таму для ўраджаю ў 100 пудоў збожжа з дзесяціны неабходна 120.000 вёдзер, а выпадае ў сярэднім каля 160.000 в.

Прычынаю засухі зьяўляецца недахоп вільгаці і асадкаў у той час, калі яравыя патрабуюць асабліва вялікай колькасьці вільгаці для свайго разьвітку. Дзякуючы гэтаму, усе мерапрыемствы па барацьбе з сухменямі павінны быць накіраваны к таму, каб сабраць і затрымаць у глебе ўсе тыя вопадзі, якія выпалі за цэлы год, для экономічнага расходваньня іх увесну.

У лік мер для выкарыстоўваньня сьнегу ўваходзяць: ворыва сьнегу, утрымка яго шчытамі, саламянымі снапамі і інш. Па праробленых вопытах, каля шчытоў, якія ўтрымліваюць сьнег, ураджай пшаніцы быў 74 пуд., а крыху далей ад іх—толькі 60 пуд.

